Л.С. САВІК

# КАБ НЕ АСТЫЛА ЦЯПЛО ЗЯМЛІ



АКАДЭМІЯ НАВУК
БЕЛАРУСКАЙ ССР
Ордэна Дружбы народаў
Інстытут літаратуры
імя Янкі Купалы

Л. С. САВІК

# КАБ НЕ АСТЫЛА ЦЯПЛО ЗЯМЛІ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1984

ББК 83.3Бел7
С13

Рэдактар
П. К. Дзюбайла,
доктар філалагічных навук

Рэцэнзенты:
А. А. Семяновіч,
доктар філалагічных навук
М. І. Мушынскі,
доктар філалагічных навук

**Савік Л. С.**

С 13 Каб не астыла цяпло зямлі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1984.— 79 с.

10 к.

У брашуры разглядаюцца творы беларускай прозы «вясковай» тэматыкі, якія напісаны ў канцы 70 — пачатку 80-х гадоў, раскрываюць праз вобразы герояў самыя надзённыя праблемы жыцця сучаснай вёскі: любві да зямлі, беражлівыя адносіны да прыроды, стварэнне гісторыі вёсак, захоўванне памяці аб тых, хто арганізоўваў калгасы і саўгасы, адраджаў іх да жыцця ў цяжкія пасляваенныя гады, пытанні пераемнасці духоўных каштоўнасцей.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

Д $\frac{4603010202-156}{М316-84}$ доп.— 84 ББК 83.3Бел7

Беларуская савецкая літаратура, маючы багатыя традыцыі ў мастацкім адлюстраванні вясковага жыцця, і сёння звяртаецца да адвечных, але заўсёды актуальных пытанняў працы, побыту, культуры сяла, захавання любові і прыхільнасці да зямлі, прыроды, да ўсяго жывога ў ей. Аднак мы не можам лічыць толькі «вясковай» такую праблематыку, бо зямля — гэта і роднае поле, і хлеб наш надзённы — самае галоўнае багацце чалавецтва, асабліва цяпер, у эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая нясе не толькі матэрыяльныя даброты, але і небяспеку парушэння экалагічнай раўнавагі ў прыродзе. Нельга ў сувязі з гэтым не прыгадаць некаторыя лічбы, якія сведчаць, што з сельскагаспадарчага ўжытку ў свеце штогод выбывае 50—70 тысяч квадратных кіламетраў урадлівых зямель (агульная плошча сельскагаспадарчых угоддзяў — 14 мільёнаў квадратных кіламетраў). За апошнія дзесяцігоддзі каля 9 мільёнаў квадратных кіламетраў ворыва і пашаў ператварылася ў пустыні. (Гэта столькі зямельных плошчаў, на якіх праведзена меліярацыя.)

Лясы — пастаўшчыкі кіслароду — высякаюцца зараз з хуткасцю 20 гектараў у мінуту.

У выніку колькасць кіслароду ў атмасферы штогод змяншаецца на 10—12 мільярдаў тон. Наадварот, колькасць вуглякіслага газу ў параўнанні з сярэдзінай XIX стагоддзя ўзрасла на 10—12 працэнтаў, што мае адмоўнае ўздзеянне не толькі на сельскагаспадарчую вытворчасць.

Не навіна, што многія рэкі, азёры, моры ператвараюцца ў прыёмныя каналізацыйныя калектары, а Сусветны акіян атручваецца нафтай, радыёактыўнымі адходамі. У мінулым дзесяцігоддзі гадавы аб'ём сцёкавых водаў у свеце перавысіў 450 кубічных кіламетраў! Для іх ачысткі трацілася каля 40 працэнтаў усіх рэсурсаў гадавога запасу свежай вады. Іначай кажучы, чалавецтва незалежна ад усіх іншых пагроз, у тым ліку самай страшнай і непасрэднай — ядзернай, апынулася на грані экалагічнай катастрофы. І ў гэтым сцвярджэнні няма ніякага перабольшвання.

«Сучасныя маштабы і тэмпы развіцця вытворчых сіл, — адзначалася на снежаньскім (1983 г.) Пленуме ЦК КПСС,— патрабуюць змяніць адносіны да пытанняў, звязаных з аховай акаляючага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў. Гэта задача вялікай эканамічнай і сацыяльнай значнасці. Размова па сутнасці ідзе аб здароўі і беражлівым, гаспадарчым падыходзе да нацыянальнага багацця краіны. Больш таго, гэта пытанні і будучага. Ад іх рашэння залежаць умовы, у якіх будуць жыць наступныя пакаленні.

Неабходна падкрэсліць, што, нягледзячы на сур'ёзныя намаганні, якія намі прымаюц-

ца, вастрыня праблемы не здымаецца. Гэта гаворыць аб тым, што трэба больш настойліва і мэтанакіравана праводзіць работу па ахове прыроды... Словам, трэба падыходзіць да гэтай праблемы комплексна, з агульнадзяржаўных пазіцый, рашуча палепшыць усю сістэму кіравання і кантролю за станам акаляючага асяроддзя».

Такое становішча патрабуе і ад мастакоў слова смялей, актыўней выступаць у абарону прыроды, нашага агульнага дому ў сусвеце, глыбей раскрываць эканамічныя, сацыяльныя, маральна-этычныя праблемы, высвятляючы праз іх духоўны патэнцыял грамадства, прыкмячаць недахопы, цяжкасці, нявырашаныя пытанні, якіх яшчэ шмат у жыцці, пазбягаць усялякага прыхарошвання, паказваць новае, перадавое, што ўзнікае ў побыце сяла, псіхалагічным вобліку працаўніка зямлі.

Сёння, у эпоху НТР, калі ў вёсцы адбываюцца падзеі, амаль такія ж вострыя, маштабныя, як калектывізацыя, калі пачалі выконвацца стаўшыя ўсенароднай справай задачы Харчовай праграмы, неабходны сістэмны, прадуманы падыход да гаспадарання на зямлі. І як ні парадаксальна гэта гучыць, планы пераўтварэння вёскі, прыроды ажыццяўляюцца не толькі ў калгасах, сельгасупраўленнях, міністэрствах, ведамствах, але і за рабочым сталом пісьменніка. Перад празаікамі, публіцыстамі тут разгортваецца шырокае поле дзейнасці, а разам з тым і адказнасці перад велічнасцю, значнасцю праблем, асабліва ў сучасны гістарычны момант, які вызначаецца небывалай вастрынёй ідэалагічнай барацьбы

двух сістэм — сацыялізма і імперыялізму. Адсюль зразумела, якая вялікая роля належыць мастацкай літаратуры ў асэнсаванні задач, пастаўленых партыяй па прапагандзе камуністычных ідэалаў, фундаментальных каштоўнасцей сацыялізма, у барацьбе за мір.

Пры супастаўленні сённяшняга раскрыцця гэтых праблем у мастацкай прозе з рэальнымі працэсамі сучаснасці непазбежна ўзнікаюць пытанні: ці не адрываецца літаратура ад жыцця, ці разумее важнасць своечасовага звароту да складаных задач дня, ці дастатковая сацыялагічная напоўненасць «вясковых» твораў? (Тэрмін «вясковая» проза ўжываецца тут у якасці ўмоўнага вызначэння той магутнай тэматычнай плыні, якая грунтуецца пераважна на «вясковым» матэрыяле, бо пісьменнікі, карыстаючыся ім, не маюць на ўвазе нейкія чыста вясковыя інтарэсы, што існуюць адасоблена ад іншых сфер жыцця.)

Вядома, што разведчыкам многіх тэм у літаратуры выступае нарыс. Па «вясковай» публіцыстыцы можна прасачыць узрастанне ўсеагульнай увагі да многіх праблем прыроды, побыту сяла на розных этапах развіцця. Вясковая нарысістыка ад «Раённых будняў» В. Авечкіна, нарысаў Г. Траяпольскага, Г. Радава, Л. Іванова, Я. Дораша, Б. Мажаева, Я. Брыля, У. Караткевіча, В. Палтаран, Я. Сіпакова, выступленняў Ф. Абрамава, В. Бялова, І. Васільева, І. Дуброўскага, А. Казловіча, В. Карамазава, Я. Будзінаса, М. Герчыка і многіх іншых смела ўрываецца ў жыццё, захоўваючы лепшыя традыцыі: праблемнасць, палемічнасць, надзённасць.

Думаецца, што беларуская крытыка пра-

яўляе залішнюю сціпласць, недаацэньваючы літаратурныя поспехі нашых нарысістаў. Аднак калі ўважліва і паслядоўна перачытаць іх творы, то можна ўбачыць, што зроблена нямала. Па вастрыні, сур'ёзнасці пастаўленых задач, глыбіні іх асэнсавання «вясковы» нарыс сёння шмат у чым апярэджвае іншыя мастацкія жанры прозы. Лепшыя з нарысаў чытаюцца з большым хваляваннем і цікавасцю, чым некаторыя раманы або аповесці.

Вялікія змены адбываюцца ў вёсцы. Але не ўсе яны бываюць неабходныя, жаданыя. Калі іх своечасова не разглядзець, энергічна не ўмяшацца, то можа здарыцца непапраўнае, такое імкненне з'яўляецца вызначальным для многіх нарысістаў. Асэнсоўваючы перспектыўныя напрамкі развіцця вёскі, яны паказваюць новыя тыпы людзей, праўдзіва, дакладна выяўляюць асноўныя заканамернасці эпохі НТР, добра разумеюць і вытлумачваюць свой час. Гэта з'яўляецца важнай адзнакай кніг і нарысаў І. Дуброўскага («Гамоніць Палессе», «На новыя кругі», «Час сеяць і час жаць», «І прыйшлі ў вёску дойлісы», «Новы Асавец», «Навіны Старога Свержаня», «Красна хата не толькі пірагамі»), А. Казловіча («Дыханне», «Пара існі», «Далёка наперадзе», «Вясковыя мужчыны», «Вясковыя жанчыны», «Цывілізацыя называецца Дуброўка», «Увесь навідавоку»), В. Карамазава («Зямная повязь», «Хлеб і да хлеба»), Я. Будзінаса («Бядуля і ваколіцы», «Апошнім радком у зводцы», «Прамежкавы чалавек»), М. Герчыка («І чалавекам славіцца») і інш. Аўтары па-грамадзянску страсна і глыбока раскрываюць агульназначныя праблемы,

велічныя справы людзей — працаўнікоў зямлі.

Па-ранейшаму востра нарысісты ставяць пытанні меліярацыі Палесся, аховы расліннага і жывёльнага свету, выкарыстання асушаных зямель. Цікавяць іх праблемы лесагаспадарання, перабудовы застарэлых спосабаў земляробства, набліжэння вёскі да горада паводле ўмоў працы, побыту, культуры. У сувязі з гэтым у іх творах разглядаюцца праблемы будаўніцтва новага сяла, урбанізацыі сельскай мясцовасці, міграцыі і неперспектыўных вёсак, захавання лепшых сялянскіх традыцый, развіцця падсобных гаспадарак, новага зместу працы і пераадолення псіхалагічнага бар'еру ў пераходзе да яе, адносін старэйшага і маладзейшага пакаленняў да зямлі, прыроды. Высвятляецца праблема «прамежкавага» чалавека і што яна азначае для вёскі і горада ў сацыяльным, духоўным плане. Нарысісты выяўляюць многія адмоўныя моманты: безгаспадарчасць, абыякавасць, безадказнасць, браканьерства ў самым шырокім сэнсе гэтага паняцця. Спрабуюць рабіць яны экалагічныя, сацыяльныя, псіхалагічныя прагнозы. Пісьменнікі жывуць жаданнем, па словах І. Дуброўскага, «расказаць шырокаму свету пра гэтыя, здавалася б, сухія, далёка не літаратурныя пытанні. Ці не адсюль, з гэтых пытанняў, бярэ пачатак тое, над чым б'ецца літаратура ў намаганнях пазнаць душу чалавека, матывы яго паводзін, яго лёс. Гаспадарчыя пытанні, якіх мы кранаемся, — аснова, на якой людзі ткуць працай сваёй, сваёй дзейнасцю жывыя ўзоры жыцця».

Беларускія нарысісты пішуць пра вёску так, што справы і жыццё сённяшняга сельскага працаўніка выклікаюць пільную ўвагу і цікавасць чытача. Яны ствараюць гісторыю сучаснай вёскі, мы бачым у іх творах апісанне многіх дасягненняў, якімі можна ганарыцца, і шэраг праблем, без хутчэйшага вырашэння якіх рухацца наперад немагчыма. Але галоўнае, што найперш у полі іх зроку — чалавек. «Не ўпусціць чалавека, — лічаць героі нарыса В. Карамазава «Хлеб і да хлеба», — бо ў сельскай гаспадарцы карысны, надзейны той чалавек, які на зямлі, дзе жыве, пусціў глыбокія карані. Чалавек, які з маленства не прырасце душой да зямлі, селянінам не будзе — тут свая псіхалогія, тонкая, псіхалогія гістарычная, традыцыйная і не часовая».

І колькі на старонках іх нарысаў паўстае вобразаў вясковых людзей, выдатных майстроў сваёй справы, якія ажыццяўляюць перабудову сяла: механізатараў, улюбёных у тэхніку, аграномаў, меліяратараў, даярак. З хваляваннем чытаюцца нарысы А. Казловіча пра вясковых жанчын і мужчын, старшынь калгасаў, славутыя Верцялішкі. Тут асабліва адчуваецца чалавечае, маральнае абгрунтаванне надзённых праблем вясковага жыцця. Нарысы А. Казловіча цікавыя і па форме і па зместу. Ён умее вылучыць галоўнае, не баіцца вострых пытанняў, не згладжвае іх, нічога не прыхарошвае. Выяўляючы канфліктныя сітуацыі, аўтар робіць вывады, раскрывае перспектыву, і за ўсім гэтым адчуваецца неспакой душы, мастацкі тэмперамент чалавека, які добра ведае сваю справу. І хоць не ўсё ў яго выказваннях прымальнае, не заўсё-

ды ён ідзе наперадзе падзей, але піша так, што, мусіць, нікога не пакідае абыякавым.

Адна з немалых удач публіцыстаў — стварэнне партрэтаў-характарыстык так званага старшынёўскага корпуса. (Гэту справу ў рускай літаратуры яшчэ ў 60-я гады пачынаў рабіць Г. Радаў.) Паўнакроўнымі, жывымі людзьмі паўстаюць вобразы вядомых кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, былых і сённяшніх: арганізатара першай на Беларусі камуны Модзіна, Арлоўскага, Смірнова, Шаплыкі, Арцімені, Ралько, Лёлі, Бядулі, Валодзькі, Старавойтава, Аляксанкіна з нарысаў І. Дуброўскага, В. Якавенкі, Я. Будзінаса, М. Герчыка, А. Казловіча, А. Кейзерава.

Гэта вельмі розныя людзі і па ўзросту, знешняму выгляду, схільнасцях, але іх аб'ядноўвае адно: беззапаветная адданасць свайму народу. Моцнай гаспадарку можа зрабіць толькі выдатны кіраўнік, у якога на першым плане заўсёды клопаты пра чалавека-працаўніка. Аўтары пішуць з вялікім захапленнем пра сваіх герояў. А. Казловіч нават прызнаецца, што ён проста-такі закахаўся ў Старавойтава, захапіўся прадметам апісання і можа яго заідэалізаваць. Але цікава — у чытача ствараецца ўражанне, што ніякай ідэалізацыі няма, сам пачынаеш захапляцца такімі людзьмі, бо пісьменнікі не галаслоўныя. Нічога яны не выдумляюць, бо добра вывучылі гэтых людзей, доўгі час працавалі побач з імі, назіралі, прыслухоўваліся да меркаванняў іншых, бачылі вынікі, даведаліся пра асабісты лёс кожнага. Ёсць толькі тут адно пытанне — чаму ніхто з нарысістаў, гаворачы пра такіх славутых людзей і іх не менш сла-

вутыя калгасы, саўгасы, эксперыментальныя пасёлкі, не раскрыў такую праблему: ці на самай справе не існуе для знакамітых старшынь пытанне дэфіцыту, ці, дакладней, лімітаў, якія існуюць для іншых?

Паказваюць, зразумела, нарысісты і многіх кіраўнікоў, што могуць нямала бяды нарабіць сваім кіраваннем. І ўсё ж надзейная будучыня за такімі, як добры, уважлівы Арцімёня, які ўмее адкрываць таленты людзей, няўрымслівы, патрабавальны Старавойтаў, хараство душы якога перадаецца людзям «Рассвета», гаспадарлівы Бядуля, самаахвярны, нястомны і цярплівы Валодзька. Радасна чытаць пра іншых сельскіх спецыялістаў, працу перадавых людзей вёскі, добрую, цёплую непасрэднасць, спагадлівасць старых жыхароў, новы побыт калгасных пасёлкаў, пра вясковых настаўнікаў-энтузіястаў Ведрыцкай школы на Гомельшчыне з нарыса У. Верамейчыка «Права жыць у вёсцы», якія садзейнічаюць таму, каб вырастала змена хлебаробаў, каб іх выхаванцы заставаліся ў вёсцы.

Як сапраўднае адкрыццё ўспрымаецца вобраз гарадскога інжынера, патомнага інтэлігента Уладзіміра з нарыса Я. Будзінаса «Прамежкавы чалавек». Самастойны, творчы чалавек, ён імкнецца пераадолець саматужнасць мыслення ў адносінах да сяла. А вось яго антыпод — начальнік аднаго з вылічальных цэнтраў — сапраўдны «прамежкавы» чалавек у найгоршым сэнсе гэтага слова. Ён нарадзіўся ў вёсцы і, казыраючы такім момантам у сваёй біяграфіі, стараючыся пазбавіцца прынцыповых, разумнейшых за яго

супрацоўнікаў, хутка зрабіў кар'еру. Стварыўшы вакол сябе адпаведнае асяроддзе з розных падхалімаў, усялякіх родзічаў, ён адчувае асалоду ад сваёй улады, напралом ідзе да адзінай мэты, уласнага ўзбагачэння, назапашвання прэстыжных, дэфіцытных рэчаў, шырока карыстаючыся прынцыпам жыцця сучаснага мешчаніна, спажыўца: «ты — мне, я — табе». Такіх людзей прывяло ў горад не імкненне да вучобы, культуры, сумленнай работы, яны не з тых працавітых, вясковых людзей з прыроджаным высокім духоўным і маральным узроўнем. Яны і да горада, яго культуры не дайшлі і ад вёскі адарваліся. Шкода ад такіх людзей і вёсцы і гораду аднолькава агромністая — вось гэту сацыяльную, псіхалагічную з'яву і раскрывае Я. Будзінас у сваім творы.

Людзі, пра якіх расказалі нашы нарысісты, «маюць права, павінны стаць літаратурнымі героямі, — адзначае І. Дуброўскі. — Чаму пра такіх не піша наша мастацкая проза?»

Нарыс тут сапраўды падказвае шлях аповесці, раману, улоўліваючы галоўную грамадскую тэндэнцыю — патрабаванне часу — вяртанне чалавека да зямлі. А вяртанне гэта трэба стымуляваць не толькі пастаноўкай вострых праблем, але і паказваць станоўчае, добрае, прыцягальнае, прыгожае, што ёсць у прыродзе, вёсцы, яе людзях, што дапамагло б змяніць псіхалагічны настрой, пераламаць жаданне пакідаць вёску.

Усе гэтыя праблемы, вобразы, тэмы, што разведаў нарыс, павінны далей трансфармавацца ў мастацкай прозе, буйных яе жанрах.

Так было заўсёды, бо высокае выхаваўчае ўздзеянне лепшых мастацкіх твораў на чытача даўно вядома. Тут адразу прыгадваюцца творы Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, К. Крапівы, М. Лынькова, М. Зарэцкага, П. Галавача, С. Баранавых, многіх іншых аўтараў 20—30-х гадоў, якія стаялі ля вытокаў развіцця беларускай прозы, змаглі па гарачых слядах падзей паказаць пераломныя моманты жыцця вёскі. Іх раманы, аповесці ніколі не страцяць для нас мастацкай каштоўнасці, яны служылі і будуць служыць тым падмуркам, на якім вырастаюць такія дасягненні шматнацыянальнай савецкай літаратуры, як «Палеская хроніка» І. Мележа. Надзённа, востра стаіць і цяпер пытанне, якое хвалявала І. Мележа, калі ён, раскрываючы вобраз Васіля Дзятла, імкнуўся вылучыць такія рысы сялянскай натуры, як гаспадарлівасць, грунтоўнасць, прыхільнасць да зямлі, працы, падкрэсліваў, што, абагульняючы сялянскія гаспадаркі, руйнуючы межы, неабходна захаваць у селяніне такую любоў да калектыўнага поля, якую ён меў да сваёй уласнай палоскі. Або, малюючы вобраз Апейкі, аўтар прыкмячаў, сцвярджаў тыя ж якасці лепшых прадстаўнікоў сённяшняга атрада савецкіх, партыйных кіраўнікоў, якія хораша раскрылі нашы публіцысты ў вобразах герояў сваіх нарысаў.

У сувязі з гэтым успамінаюцца шматлікія раманы, аповесці Я. Брыля, І. Шамякіна, А. Асіпенкі, А. Кулакоўскага, І. Чыгрынава, І. Пташнікава, Б. Сачанкі пра вёску ваенную і пасляваенную, творы І. Навуменкі, М. Стральцова, Я. Сіпакова, А. Кудраўца,

П. Місько, А. Жука, напісаныя ў 60-я — пачатку 70-х гадоў, дзе аўтары пачыналі закранаць праблемы, якія больш абвастрыліся сёння.

Ці не з'яўляецца нядаўняя аповесць В. Быкава «Знак бяды» ўзорам таго, як трэба заглыбляцца ў жыццё народа, простага чалавека, які на сваіх плячах выносіў асноўны цяжар у складаныя перыяды гісторыі: часы калектывізацыі, вайны? І ці не добры гэта знак, што В. Быкаў павернецца да «вясковай» тэмы, бо вёска зараз, паводле шматлікіх прызнанняў пісьменнікаў і іх герояў, — тая ж перадавая, на якой «ідзе самы сапраўдны бой. І жорсткі. Толькі не ваенны, а мірны. Бой за хлеб, за малако, за мяса», — падкрэслівае І. Дуброўскі ў нарысе «За намі вёска».

Калі размова заходзіць пра «вясковую» тэматыку, то нязменна ў памяці чытача паўстаюць таксама творы Ф. Абрамава, Ч. Айтматава, Й. Авіжуса, В. Астаф'ева, В. Бялова, І. Друцэ, А. Ганчара, С. Залыгіна, Г. Матэвасяна, В. Распуціна, В. Шукшына, многіх іншых таленавітых празаікаў. Усхвалявана, страсна вядуць мастакі размову пра чалавека, яго сувязі з акаляючым асяроддзем, прыродай, жывёльным светам. Яны дэманструюць прыклад таго, як шырока, у планетарных маштабах можна разглядаць усе гэтыя пытанні і ў той жа час з такой канкрэтнасцю, псіхалагічнай глыбінёй, якая хвалюе кожнага, хто бярэ ў рукі кнігу.

Як жа беларуская мастацкая проза сёння паказвае жыццё вёскі, яе надзённыя вострыя праблемы, як раскрывае вобраз сучасніка — працаўніка зямлі? Трэба адзначыць як неда-

хоп, што нашы пісьменнікі мала карыстаюцца публіцыстычным жанрам для аператыўнага аналізу з'яў рэчаіснасці, мала ўмешваюцца ў жыццё праз нарыс, змагаючыся з адмоўнымі з'явамі, падтрымліваючы парасткі новага. Амаль не сустрэнеш цяпер у перыёдыцы артыкул, выступленне, нарыс вядомага пісьменніка, напісанага па прынцыпу: «не магу маўчаць», як гэта рабіў Ф. Абрамаў, як робяць сёння ў рускай літаратуры В. Бялоў, А. Калінін, Б. Мажаеў і іншыя, а былі ж такія раней у У. Караткевіча, Б. Сачанкі, Я. Сіпакова, М. Стральцова. Ёсць жа шмат цікавых тэм, вострых сітуацый у жыцці беларускай вёскі. «Недастатковая актыўнасць паэтаў і празаікаў на ніве публіцыстыкі, — адзначае Н. Гілевіч, — немінуча адмоўна адбіваецца на прозе і паэзіі, на іх ідэйнай змястоўнасці». Цяпер, калі трэба перааддолець абыякавасць да зямлі, да працы хлебароба, незвычайна ўзрастае роля ўсяго мастацтва ў такой важнай справе. Гэта, як падкрэслівае рускі публіцыст І. Васільеў, «сацыяльны заказ мастакам... бо сёння псіхалогія рухае эканомікай».

Вядома, што кожная эпоха ставіла перад пісьменнікамі свае задачы. Гісторыя літаратуры сведчыць, што ў цэнтры ўвагі празаікаў розных пакаленняў заўсёды стаяла велічная фігура простага вясковага чалавека. Не здымаецца гэта праблема і сёння. Класік беларускай літаратуры К. Чорны часта паўтараў, што чалавек — гэта цэлы свет, у якім увасабляецца эпоха. Аднак сучаснасць літаратуры, сіла яе ўздзеяння вымяраюцца не толькі здольнасцю апісваць хуткаплынныя падзеі і

чалавека ў іх. Сапраўдныя творы мастацтва запамінаюцца сваімі героямі, людскімі лёсамі, якія застаюцца ў памяці чытача назаўсёды. Савецкая літаратура была і будзе вернай свайму ідэйна-эстэтычнаму крытэрыю — праўдзе жыцця. У глыбокіх, рэалістычна-мастацкіх вобразах адлюстравала яна мужную барацьбу народа ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, нечувалы энтузіязм першых пяцігодак і калектывізацыі, гераічны подзвіг у Вялікай Айчыннай вайне, пасляваенны перыяд.

Асноўная праблема нашай шматнацыянальнай літаратуры — стварэнне вобраза сучаснага героя, які б увасабляў у сабе вынік тых духоўных, маральных пошукаў, якія ідуць сёння ў жыцці і літаратуры. Ён павінен быць асобай яркай, маштабнай, самабытнай, глыбока цікавай па свайму ўнутранаму свету, па непадзельнасці і кантактнасці з рэчаіснасцю. Таму асабліва важна паглядзець, якія бакі жыцця знаходзяць адлюстраванне ў мастацкім творы, хто абіраецца ў якасці героя, якія яго жыццёвыя інтарэсы, наколькі дакладна расстаўлены аўтарам акцэнты, ці дастаткова ясная, выразная яго ўласная пазіцыя. Ад таго, як паказвае пісьменнік сучасніка, шмат у чым залежыць, якім паўстане перад гісторыяй новае пакаленне, што ўступае сёння ў жыццё, наколькі яно будзе гуманным, адказным за будучае. Вядома, фарміраваць сродкамі мастацтва палітычную, духоўную культуру сучасніка, асабліва моладзі, немагчыма без сацыяльна-актыўнага героя, у якім увасабляецца сацыялістычны і эстэтычны ідэал. У. І. Ленін неаднаразова падкрэсліваў,

што чалавеку патрэбен ідэал, патрэбны герой, здольны стаць уладаром дум. У пастанове ЦК КПСС «Аб творчых сувязях літаратурна-мастацкіх часопісаў з практыкай камуністычнага будаўніцтва» (1982) пацвярджаецца гэта ленінская думка: «Новыя пакаленні савецкіх людзей маюць патрэбу ў блізкім ім па духу і часе станоўчым герої, які ўспрымаўся б як мастацкае адкрыццё, уплываў на ўчынкі людзей, адлюстроўваў бы лёсы народныя». Пастанова ЦК КПСС «Аб рабоце партыйнай арганізацыі Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы» (1983) зноў адзначае, што «галоўная мэта мастацтва — напісанне твораў, якія паказваюць прыгажосць савецкага ладу жыцця. Важна, каб у спектаклях раскрываліся лепшыя рысы чалавека, уласцівыя яму ідэйная спеласць, маштабнасць задум і спраў, уменне знаходзіць правільныя рашэнні ў вострых канфліктных сітуацыях, пачуццё калектывізму, маральная чысціня».

Сёння, калі так узрасла ідэалагічная і сацыяльная эфектыўнасць мастацтва, калі мы пераадолелі адналінейныя ўяўленні аб станоўчым і адмоўным, прайшоў час бесканфліктнасці, з літаратурнага ўжытку знікаюць ружовыя, ідэальныя героі і святочныя, ідылічныя творы. Надзвычай паказальна, што з'яўляюцца раманы і аповесці, у якіх шматгранна раскрываецца рэчаіснасць. У апошнія гады ў беларускай прозе створаны раманы пра сучасную вёску, наогул пра сучаснасць, што само па сабе ўжо немалое дасягненне, бо дасюль «вясковая» проза была прадстаўлена аповесцямі, апавяданнямі. Гэта раманы І. Шамякіна «Вазьму твой боль», А. Асіпенкі «Не-

прыкаяны маладзік», В. Карамазава «Пушча», П. Місько «Градабой», Л. Гаўрылкіна «Зямля дзяцей нашых», «Матчына хата», В. Казько «Неруш», І. Пташнікава «Алімпіяда», аповесці А. Жука «Халодная птушка», «Паляванне на Апошняга Жураўля», кніга В. Гігевіча «Жыціва», «Дзень Барыса і Глеба» В. Карамазава, «Дарога ў два канцы» Я. Лецкі, «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пуд жыта» М. Гіля, «Шануй імя сваё» В. Блакіта, «На новы парог» Г. Далідовіча, «Бяроза на мяжы» І. Капыловіча і інш.

Як жа распрацоўваецца ў буйных жанрах прозы праблема станоўчага героя, таго звычайнага простага, але і вялікага чалавека, што здабывае хлеб на зямлі? Героя, у характары якога праўдзіва, ярка, хвалююча ўвасобіўся б сацыяльна-духоўны ідэал эпохі і якога сам час вылучае на першы план. Трэба сказаць, што пісьменнікі яшчэ не ў поўнай меры выкарыстоўваюць той багаты жыццёвы матэрыял, які даюць ім драматычныя і складаныя працэсы пераўтварэння вёскі, а вядома, што работа па адлюстраванню буйнамаштабных вобразаў нашых сучаснікаў з'яўляецца першаступеннай задачай сучаснай літаратуры.

Калі паглядзець, ці ёсць такія вобразы ў сучаснай прозе, то аказваецца, што гэта праблема, мусіць, самая складаная для пісьменнікаў, бо вельмі мала пакуль што створана ў ёй запаўнакроўных станоўчых вобразаў, якія б задавальнялі чытача, адказвалі запатрабаванням эпохі. Найбольш цікавы вобраз Івана Батрака з рамана І. Шамякіна «Вазьму твой боль». Гэта прынцыпова новае рашэнне воб-

раза селяніна ў беларускай літаратуры. Іван Батрак — наш сучаснік, выдатны механізатар, умее працаваць на ўсіх машынах, якімі аснашчана сяло, добры сем'янін, чалавек са спагадлівай, чулай душой. Аўтар паказвае свайго героя ва ўсім багацці духоўнага свету, розных сувязях: у сям'і, рабоце, адносінах з людзьмі. Рэтраспектыўна аднаўляючы дзіцячыя гады Івана, супаўшыя з вайной, пісьменнік адначасова асвятляе яго грамадскую актыўнасць, партыйную прынцыповасць, любоў да зямлі, гаспадарлівыя адносіны да тэхнікі, клопаты пра сваю будучую змену. З вобразам Івана Батрака звязаны ўнутраны канфлікт рамана, абумоўлены памяццю вайны.

Імкнуўся да стварэння такога вобраза П. Місько ў рамане «Градабой». Гэты раман, дарэчы, адметны тым, што ён цалкам прысвечаны вёсцы, у ім акрэслена вялікае мноства праблем. Рэчаіснасць тут узнаўляецца праз побыт сям'і Сухавеяў, якая жыве ў адной з вёсак на Случчыне.

Адзін з галоўных герояў рамана Гардзей Сухавей—хлебароб, механізатар, які любіць, разумее тэхніку, адносіцца да працы як да справы гонару ўсяго жыцця, бо «працаваць кепска, — па яго ўласнаму прызнанню, — сябе прыніжаць і зневажаць». У рамане ёсць моцныя, уражлівыя сцэны працы Гардзея на камбайне (што не часта сустрэнеш на старонках «вясковых» твораў). У час жніва, займаючы самыя палеглыя, «нявыгадныя» ўчасткі поля, ён упэўнена лёгка вядзе агромністую машыну. Сашка, яго пятнаццацігадовы пляменнік, які працуе памочнікам камбайнера, любуецца прыгажосцю, зладжанасцю яго рухаў,

адчуваючы гордасць і радасць саўдзелу ў вялікай справе. Такія адносіны да працы, як у Батрака, Гардзея, маюць ні з чым не параўнальнае выхаваўчае ўздзеянне на маладое пакаленне. Яны даюць магчымасць зразумець, што такое для краіны хлеб.

Паказваючы адмоўнае стаўленне Гардзея да такіх хвароб веку, як спажывецкія настроі, якія абумоўліваюць звычкі некаторых вяскоўцаў выходзіць толькі на выгадную работу, аўтар тым самым уздымае важныя маральнаэтычныя пытанні жыцця сучаснага грамадства. Праз тры пакаленні сям'і Сухавеяў — старога Івана Іванавіча, яго дзяцей: Гардзея, Рыгора, Федзі, Настасы, дарослых ужо ўнукаў — аўтар адлюстроўвае побыт сучаснай вёскі, маральныя, духоўныя якасці яе прадстаўнікоў. Аўтара тут больш хвалюе лёс унукаў, бо ён востра ставіць пытанне: чаму Саша, сын Рыгора Сухавея, таксама калгаснага механізатара, вырастае ў спагадлівага, клапатлівага, улюбёнага ў тэхніку і зямлю працаўніка, нягледзячы на неўладкаванасць, нястачы, дрэнны маральны клімат у сям'і, а Сяргей, сын Гардзея, сфарміраваўся ў бязвольнага, інфантыльнага, без маральнага стрыжня і працоўных навыкаў чалавека? Што тут — плённы ўплыў вясковых карэнняў на аднаго, дрэннае ўздзеянне горада на другога? Аўтар адказу не дае, ён толькі канстатуе факт. Розных праблем у рамане пастаўлена шмат: меліярацыя і яе вынікі, канфлікты, што тояцца ў дзейнасці чалавека, збіранне і захоўванне народнай абраднай паэзіі, культуры, народных промыслаў, неперспектыўныя вёскі, няхватка рабочых рук у калгасах. «Лю-

дзей бы такіх вывесці... устойлівых да палягання... — марыць Гардзей.— Каб ніякія бураны ці градабоі не спляжылі...» І Гардзей, і Лявошка — намеснік сакратара парткома калгаса — шмат размаўляюць пра такія надзённыя пытанні, і ў іх разважаннях чуваць неспакой самога аўтара — усё гэта важна, патрэбна. Аднак імкненне да ўсеахватнасці праблем, думаецца, шкодзіць раману. Галоўнае для пісьменніка — мастацкія вобразы, а яны не маюць адпаведнай глыбіні, не садзейнічаюць раскрыццю гэтых праблем. Гардзей як станоўчы герой паказаны толькі ў вонкавых праяўленнях і неравважна ружовымі фарбамі. Ён больш заняты маралізатарствам, не адчуваецца яго сапраўдных перажыванняў. Таму ствараецца ўражанне заідэалізаванасці добра задуманага, неабходнага такому твору вобраза.

Праблема станоўчага героя не вычэрпваецца, зразумела, толькі адлюстраваннем перадавога чалавека, механізатара — героя свайго часу. Не менш важнае значэнне набывае вобраз кіраўніка сённяшняй сельскагаспадарчай вытворчасці, многіх спецыялістаў, іншых працаўнікоў вёскі і горада, якія так або інакш звязаны з сельскімі праблемамі.

Цесная ўзаемасувязь гарадскога і вясковага жыцця адчуваецца ў рамане А. Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік». У ім немагчыма размежаваць «гарадскія» і «вясковыя» раздзелы, бо і ў жыцці не існуе рэзкай грані паміж горадам і вёскай. Праблемы, пастаўленыя ў творы, агульназначныя, важныя для ўсяго грамадства. Супрацоўнікі навукова-даследчага інстытута, якія канструююць сельскагаспа-

дарчыя машыны, і работнікі Міністэрства сельскай гаспадаркі, нафтавікі і ўрачы сельскай бальніцы, калгаснікі, партыйныя работнікі, настаўнікі — вось у такіх шматбаковых аспектах, у сістэмным комплексным плане імкнецца разглядаць празаік нашу сучаснасць. У цэнтры яго ўвагі зусім недалёкія 60-я гады. У іх вытокі многіх змен, пачатак перабудовы сённяшняй вёскі. Нам цікава сустрэцца з сакратаром райкома Калеснікавым, памяркоўным, разумным чалавекам, які шмат думае аб перспектыве развіцця калгасных гаспадарак. Пачуццё павагі і разумення выклікае стары Інфанц'еў. Ён з той слаўнай кагорты старшынь, што ўзначальвалі калгасы ў складаныя пасляваенныя гады. Кіруючыся сваім практычным сялянскім вопытам, Інфанц'еў не прымае валюнтарысцкіх загадаў аб знішчэнні палеткаў з травамі, самастойна, удумліва вядзе гаспадарку, якая стала ўзорнай у раёне. Таксама, як і аўтар, мы адмоўна ставімся да жыццёвай пазіцыі дырэктара навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчых машын Рысакова, прыстасаванца і кар'ерыста Андрэя Шанкеля, якія навязваюць калгасам непатрэбную, дарагую і не даведзеную да ладу тэхніку — усе гэтыя значныя і вострыя праблемы тых гадоў шмат у чым сходныя з праблемамі сённяшнімі.

З усіх персанажаў рамана найбольш грунтоўна, шырока адлюстраваны вобраз старшыні калгаса Васько, таму што іменна гэты чалавек непасрэдна сутыкаецца з эканамічнымі, вытворчымі праблемамі калгаснай вёскі. Васько — адна з асноўных фігур у рамане, і ў гэтым прыкметны працяг лепшых традыцый

прозы 20—30-х гадоў, у якой вобразы партыйных і калгасных кіраўнікоў пачыналі распрацоўвацца. А. Асіпенка паказвае свайго героя як у вытворчай дзейнасці, адносінах з калгаснікамі, так і ў асабістым жыцці, увасабляючы ў яго вобразе дзелавога практыка і жыццялюба.

Сёння, калі часам назіраюцца абыякавыя адносіны людзей да зямлі, наогул да справы, грамадскіх абавязкаў, неабходным з'яўляецца тып такога кіраўніка, які спалучаў бы ў сабе якасці не толькі разумнага, патрабавальнага, але і душэўнага, чулага чалавека, асабліва пры тых вялікіх пераўтварэннях, што адбываюцца ў вёсцы. У сувязі з гэтым цікава прасачыць, якім паўстае вобраз кіраўніка ў рамане І. Шамякіна «Вазьму твой боль». Хведар Цімафеевіч Астаповіч — дырэктар лепшага ў вобласці саўгаса, кіраўнік з багатым жыццёвым вопытам. Ён, па словах аўтара, — асоба, велічыня, член абкома, кавалер ордэнаў, дэпутат. Гэтыя біяграфічныя звесткі пісьменнік прыводзіць на першых старонках твора, дапаўняючы, пашыраючы іх на працягу ўсяго рамана. І. Шамякін падкрэслівае, што Астаповіч даўно сфарміраваўся як чалавек. Раскрываючы яго вобраз, аўтар імкнецца паказаць, якім павінен быць кіраўнік эпохі НТР.

Астаповіч пададзены ў асноўным праз аўтарскія апісанні і ўспрыманне яго бліжэйшых памочнікаў, спецыялістаў, рабочых саўгаса. Такі прыём дапамагае паказаць не толькі дырэктара, але і характарызаваць дзелавыя, чалавечыя якасці тых, хто непасрэдна адказвае за свае ўчасткі працы. Найчасцей аўтар гаворыць пра Астаповіча — кіраўніка,

акцэнтуючы ўвагу на яго хітрасці і мудрасці. Гэтыя эпітэты шматзначныя, маюць глыбокі падтэкст. Калі агранома Віктара Кузю, памяркоўнага, развяжлівага чалавека, часам адольваюць сумненні наконт дзеянняў «хітругана-дзедагана», які не грэбуе — дзеля справы — выкарыстоўваць некаторыя чалавечыя слабасці, нават паказуху, што не лепшым чынам уздзейнічае на выхаванне людзей, то для прафсаюзнага «лідэра» Яшы Качанка аўтарытэт і загады дырэктара былі непахіснымі. Качанка пісьменнік характарызуе даволі грунтоўна, ён паказаны ў больш цесных сувязях з дырэктарам — гэта яго цень, «зброяносец», «правая рука». Астаповіч цаніў Качанка за пастаянную гатоўнасць узваліць на сябе любую работу, часта вельмі далёкую ад абавязкаў старшыні мясцкома, за талент «арганізатара матэрыяльнага забеспячэння дырэктаравых ідэй». І хоць гэта забеспячэнне адбывалася па прынцыпу «ты — мне, я — табе», Астаповіч не толькі не баяўся, што Качанок наробіць яму непрыемнасцей, а наадварот, яны «абодва вопытныя, разумныя, хітрыя, асцярожныя знаходзілі такую форму аплаты, матэрыяльнага заахвочвання, падзякі, да якой не мог прычапіцца ніводзін кантралёр ці рэвізор». Якаў Качанок, якога нічога не здзіўляе і не трывожыць, нягледзячы на двухсэнсоўныя, не вельмі прыстойныя метады сваёй дзейнасці, імпанаваў дырэктару больш за іншых памочнікаў, бо задавальняў самалюбства Астаповіча, які «перастаў разумець, што такое не хапае і што такое планавыя ліміты. Што ёсць у краіне і што прызначана для сельскай гаспадаркі (не цацкі

робім — кормім народ!), усё павінна быць здабыта». Як вытлумачвае аўтар, на такія хітрыкі дырэктар і яго памочнік пускаліся ўсё з-за таго ж «злашчаснага» дэфіцыту, які не даваў спакойна і рытмічна працаваць.

Зусім іншыя ўзаемаадносіны складваюцца ў дырэктара з маладым сакратаром парткома саўгаса Алесем Забаўскім, былым журналістам, якога ён перацягнуў з горада на працу ў вёску, прыкмеціўшы асаблівы гуманізм яго натуры. Перажыўшы асабістую драму, пацярпеўшы няўдачу на літаратурнай сцяжыне, Забаўскі вырашыў глыбей вывучаць жыццё, герояў сваіх будучых твораў. Алеся цікавіў духоўны клімат вёскі, а гэта якраз было слабым месцам дзейнасці Астаповіча. Хоць дырэктар і задумваўся аб суадносінах маральнага і матэрыяльнага, але ў яго не атрымлівалася «аб'яднаць, спалучыць і праверыць усе колы, падшыпнікі, усе звёны складанай перадачы ад матэрыяльнага да духоўнага і наадварот. Ён дбаў, па сутнасці, пра адно: каб людзі сумленна працавалі і каб добра ім жылося...»

Раскрываючы перадгісторыю знаёмства Астаповіча і Забаўскага, а затым прынцыпы іх супрацоўніцтва, аўтар тым самым імкнецца падкрэсліць гарманічнасць такога кіраўніцтва, калі спалучаюцца цвярозая, мудрая разважлівасць, гаспадарлівасць і гуманна-эмацыянальная клапатлівасць пра духоўнае. Работа Забаўскага падабалася Астаповічу тым, што ён «не лез у яго, дырэктарскія функцыі, у работу галоўнага агранома, інжынера, а займаўся сваёй справай — ідэалогіяй». З свайго боку Хведар Цімафеевіч Астаповіч спачатку паказаўся маладому сакратару старым, стом-

леным, абыякавым да славы і спраў саўгаса чалавекам. Але пазней Забаўскі зразумеў, што гэта хітрасць, педагагічны прыём дырэктара, калі ён, правяраючы здольнасці і ўменне новага чалавека, дае магчымасць яму самому ва ўсім разабрацца, зрабіць вывады, прыняць рашэнне. Таму так смела і адкрыта гаварыў Забаўскі на партыйным сходзе пра недахопы ідэалагічнай работы ў праслаўленым саўгасе і дырэктар не толькі не крыўдаваў, а наадварот, падказваў новыя негатыўныя факты, свядома выклікаючы прысутных на крытыку. Усё гэта дае падставу Забаўскаму далей бачыць у дзеяннях дырэктара толькі патрэбнае, разумнае, мудрае. Ён ухваляе клопаты Астаповіча аб людзях, асабліва маладой змене механізатараў, спецыялістаў розных галін, якіх прынцыпова ніколі не падмяняў у рабоце, бо лічыў, што яны, адукаваныя, больш могуць за дырэктара. Забаўскаму імпануе бескампраміснасць, патрабавальнасць, яго ўменне бачыць перспектыву, вылучаць і падтрымліваць працаўнікоў, прыхільных да зямлі, тэхнікі. «Дзелавы мужык! — думае пра Астаповіча і Іван Батрак. — Умее дзед кожнага прымусіць круціць турбінку на ўсю сілу». Такія меркаванні перадавога механізатара супадаюць са словамі Алеся Забаўскага, які, захапляючыся маштабамі асобы дырэктара, канстатуе: «Ён не працуе — ва ўсеабдымным да бязмежнасці разуменні гэтага слова, ён кіруе, мудра, спакойна, разважліва, з любоўю да справы і, што асабліва кранула маладога гуманіста, — з любоўю да людзей».

Нямала добрых слоў пра Астаповіча-кіраўніка гаворыць непасрэдна сам пісьменнік.

Мы бачым і разумеем захапленне аўтара сваім героем, адчуваем, што Астаповіч — адзін з прадстаўнікоў старшынёўскага корпуса, апісанага нарысістамі, але там жывыя людзі, а ў рамане — мастацкі вобраз, і як вобразу яму не хапае самараскрыцця: ацэнкі сваіх дзеянняў, бо павінны ж быць у такога чалавека, як Астаповіч, сумненні, ваганні, роздум, памылкі, без гэтага няма ўяўлення, што перад намі жывы паўнакроўны вобраз кіраўніка. Ён не паказаны ва ўчынках, руху, сутыкненнях з людзьмі, ён апісаны, і гэта аднабаковае знешняе раскрыццё збядняе яго вобраз. Прыходзіцца верыць на слова такім вось аўтарскім характарыстыкам, накшталт: «Хведар Цімафеевіч Астаповіч, па агульным прызнанні нізоў і вярхоў — рабочых, начальства,— быў добрым гаспадаром, не дарэмна дырэктарстваваў чвэрць стагоддзя, гэтую самую чвэрць, калі НТР дасягала свайго апагея і не дарэмна на пінжаку ў яго высокі ордэн і дэпутацкі значок». І яшчэ: «Слабасцей і дзівацтваў у Астаповіча было нямала, калі не лічыць псіхалагічных, якія праяўляюцца ў побыце, то з кіруючых слабасцей у Астаповіча была адна, народжаная НТР, — празмернае захапленне навінкамі: усё, што ёсць у другіх, павінна быць і ў Добрынскім». Астаповіч «мозг жывога арганізма, выдае ідэі і дакладна вызначае, якую з яго ідэй хто павінен выканаць, сабе пакідае толькі тыя, якія патрэбна «прабіваць» у высокіх інстанцыях яго аўтарытэтам, яго званнямі...“ Такіх характарыстык Астаповіча з боку розных персанажаў шмат рассыпана па раману. Але чым больш пісьменнік, многія персанажы твора хваляць і захапляюцца ім,

тым больш выяўляюцца супярэчнасці ў яго справах, паводзінах. Ці мудрасць гэта, калі Астаповіч разважае: «Я працаваў, каб людзі смачна елі, прыгожа адзяваліся, цяпер нехта разумнейшы за мяне, больш адукаваны, павінен папрацаваць, каб зрабіць людзей лепшымі, навучыць правілам высокага кодэкса новага ўкладу жыцця», або, калі Забаўскі, гаворачы ў дакладзе на партыйным сходзе пра асновы духоўнасці, вымушаны адзначыць: «Забываемся пра тых жанчын, што пасля вайны аралі на сабе і палучалі на працадзень па дзвесце грамаў. Некаторыя з іх, у каго не засталося сыноў, ці выехалі яны ў горад, цяпер сена носяць на сабе, а мы глядзім і лічым, што так і трэба, што пры аўтаматычнай сістэме кіравання не да гэтых жанчын».

Аўтар гаворыць пра маштабы дзейнасці такога дзяржаўнага чалавека, як Астаповіч, яго вопыт, імкненне падхопліваць перадавыя ідэі часу, але чытач бачыць другое — уменне Астаповіча пераманьваць з другіх гаспадарак таленавітых спецыялістаў. Ён не жадае разумець, што такое ліміты, любымі сродкамі, з дапамогай вернага Яшы Качанка здабывае, цягне нават тое, што не патрэбна саўгасу, а, магчыма, больш неабходна іншым гаспадаркам. Тут ужо не маштабы мыслення дзяржаўнага чалавека, а вузкі погляд, абумоўлены старой сялянскай псіхалогіяй назапашвання — абы было ў мяне. Аўтар і сам, відаць, перад гэтым характарам апынуўся на раздарожжы, бо ў канцы гаворыць: «Магчыма, у такім узросце, у такіх абставінах уздзейнічае комплекс, мноства прычын, што пацвярджае старую ісціну: «Чалавек — загадка».

У аповесцях А. Жука «Паляванне на Апошняга Жураўля» і В. Блакіта «Шануй імя сваё» таксама выведзены вобразы кіраўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Яны раскрываюцца па прынцыпу супастаўлення: старэйшыя сфарміраваліся ў пасляваенную эпоху, яны захавальнікі чалавечнасці, душэўнасці, гаспадарлівасці, маладзейшыя, сучасныя, адукаваныя, нават з кандыдацкімі ступенямі — у эпоху НТР. Але супастаўленне гэта не на карысць маладым.

Змястоўным і цэласным у мастацкіх адносінах атрымаўся вобраз Сцяпана Дзямідчыка ў А. Жука. У цэнтры аповесці «Паляванне на Апошняга Жураўля» лёс былога старшыні калгаса, затым брыгадзіра і пенсіянера. Пісьменнік паказвае свайго героя ў апошнія моманты жыцця, калі перад Дзямідчыкам, якога смяртэльна паранілі браканьеры, праходзіць усё яго нялёгкае жыццё. Гэта драматычная сітуацыя, з якой пачынаецца аповесць, настройвае чытача на асобае эмацыянальнае ўспрыманне і трымае ў нецярплівым чаканні да апошняй старонкі. І пасля смерці Сцяпана адчуваеш, як збяднела не толькі маленькая палявая вёсачка Альховыя Крыніцы, але і твой уласны свет, з якога пайшоў разумны, неспакойны сябра, Чалавек. які жыў па законах вышэйшага дабра і справядлівасці. Але не, не знік ён бясследна, пакінуў аб сабе незабыўную памяць, даў табе маральны прыклад таго, як трэба жыць, быць змагаром, любіць сваю зямлю. І назаўсёды ўжо застанецца ў памяці вобраз гэтага чалавека, бо прымусіў ён пра многае задумацца, выклікаў моцнае пачуццё суперажывання.

Сцяпан верыў, спадзяваўся і рабіў усё дзеля таго, каб вярнуліся ў іх вёску буслы, куды яны даўно не прылятаі, каб адрадзілася яна, стала шматлюднай, поўнай дзяцей і каб зноў гучалі па вечарах песні людзей, якія вяртаюцца з работы. І нездарма Сцяпан больш за ўсё любіў у вёсцы вось гэтыя вячэрнія часы, «нешта мулка варушылася пад грудзьмі, мучыла сэрца журбою і сумам — нібыта балела ў яго душа па самім сабе, як аднекуль здалёку глядзеў ён на вёску, на сябе самога, адзінокага ў глухім мораку, які наплываў на зямлю, наплываў на поле, на хаты, як вада вечнага забыцця...» Успамінаў ён тады дзедаўскую казку пра Апошняга Жураўля, у якую наіўна, па-дзіцячаму верыў, быццам чуў «зліты з небам, і з полем, і з цішынёю тужлівы, адзінокі развітальны жураўліны кліч». Успамінаў вёску свайго дзяцінства, арганізацыю калгаса, клопаты бацькі — першага калгаснага брыгадзіра, яго размовы са старшынёй Наронскім, былым гарадскім рабочым, якому цяжка давалася сельская гаспадарка. Усплывалі ў памяці гады вайны, партызанскае мінулае, сніліся расстраляныя фашыстамі родныя, блізкія, аднавяскоўцы. І над усімі гэтымі ўспамінамі плыла песня маці, і Сцяпан часта чуў, як яна спявала з бацькам. Ад песні гэтай лягчэй станавілася на душы, адыходзіў кудысьці халодны партызанскі лагер, бачылася вёска, разбураная вайной, цяжкія пасляваенныя гады, яго бясконцыя клопаты і трывогі старшыні, калі «ён рабіў разам з людзьмі, слухаючы і паважаючы іх. Усяга было з ім, давалі вымовы і за кукурузу, і за незаараную канюшыну, але

ён ведаў, што мяняецца час, ды не праходзіць на зямлі праўда, чэснасць чалавека, не прападае тое, чаму навучыў яго бацька, што спасціг сам ён праз сваё жыццё».

Непрыкметна прайшлі гады, і цяпер Сцяпан ужо і не брыгадзір у Альховых Крыніцах, дзе апошнім часам замест калгаса была створана брыгада, а пенсіянер, як большасць суседзяў наўкола. Адыходзіла ў мінулае, памірала іх неперспектыўная вёска, але не мог і не хацеў прызнаць Сцяпан жорсткую праўду, што ён цяпер не сее і не жне, хаця ён добра памятаў тыя дні, калі зямлю аралі коньмі, якіх цяпер у вёсцы не засталося, і ў кожнай хаце было па мужчыне, не гаворачы пра падлеткаў і хлопцаў, калі жалі і вазілі снапы, і ў час жніва звінела поле ад песень. Яму здавалася, што ён усё жыццё «бег, бег, і ад гэтага бегу аж у вушах шумела, потым раптоўна спыніўся і аглух ад цішыні і спакою. Ён не мог прывыкнуць, што не трэба зранку ўставаць і спяшацца. Прахопліваўся са сну, падняты старым прывычным клопатам, і ўспамінаў, што нічога не трэба...» Але Сцяпан застаўся па-ранейшаму гарачым, сумленным, бескампрамісным чалавекам, не цярпеў у людзях самазаспакоенасці, абыякавасці, спажывецкіх настрояў. Вось і лепшы сябра Сцяпана, які ваяваў разам з ім у партызанскім атрадзе, участковы міліцыянер Жогла, і якога некалі баяліся ўсе самагоншчыкі, п'яніцы, зладзеі, «аброс мохам, стаў тоўсты, мяккі, добры для ўсіх — і для начальства, і для людзей. І адразу ж выбудаваў хату, купіў сабе машыну і сядзеў на сваёй участковай пасадзе, як на цёплай купіне». Таму і ўзнікла

непаразуменне паміж цяперашнім прыстасаванцам, спажыўцом Жоглай, які ператварыў матэрыяльны дабрабыт з умовы ў мэту і сэнс свайго існавання, і Дзямідчыкам, якому да ўсяго ёсць справа на зямлі і які працуе, кіруючыся прынцыпам рабіць усё па-гаспадарску, як вучыў некалі бацька. Ён не баіцца ісці на адкрыты канфлікт з цяперашнім старшынёй калгаса Прымачакам, назіраючы яго безгаспадарчасць, няўменне працаваць і разумець людзей, абыякавасць да зямлі, грамадскага дабра. Уступае ў няроўную схватку з браканьерамі, асуджаючы тых зайздросных гараджан, нядаўніх вясковых жыхароў, якія, дарваўшыся да прыроды, латашылі ўсё паддрад і жывое і нежывое, не задумваючыся, што пасля іх застанецца. Папракае калгасных механізатараў, якія ў гарачы час жніва наладжваюць п'янку ў полі. Сцяпан пакутуе ад усведамлення, што ніколі не пабачыць былую пакручастую прыгажуню-раку, якая пасля меліярацыі ператварылася ў спрамленую канаву з бетаніраванымі берагамі, па дну якой ледзь струменілася вада. Ён змагаецца з усім, што лічыць непатрэбным, неапраўданым разумным гаспадараннем чалавека, рознымі даступнымі яму сродкамі: піша ў газету, ідзе ў райком, начамі ахоўвае хаткі баброў, арганізоўвае пенсіянераў зжаць недаступны для камбайна ўчастак поля сярпамі. І калі снапы засталіся невывезенымі з-за нядбайства старшыні, які лічыць такія страты дробязнымі, не вартымі ўвагі, Сцяпан пры ўсёй вёсцы выказвае свае думкі Прымачаку: «Ты вучыш, каб на сноп сёння плюнулі, заўтра на ўвесь палетак плюнуць! Хочаш на старых, на

вёску плюнуць — заўтра яна на цябе самога і на ўсіх такіх, як ты, плюне!»

Не ўсе аднавяскоўцы прымаюць пазіцыю Сцяпана. Пасмейваўся Жогла, разумеючы сваё жыццёвае крэда адзіна правільным і выгадным. І калі адны лічылі Дзямідчыка сапраўдным гаспадаром, а многія называлі дурнем, не здольным ладзіць з начальствам, то само начальства ў асобе маладога адукаванага старшыні, які больш за ўсё клапоціцца пра ўласны дабрабыт, не адчуваючы шчырых памкненняў і душэўнага болю чалавека, аддаўшага калгасу, роднай зямлі ўсе сілы, крычыць яму ў твар: «Ён аднаўляў, ён ветэран! Пара ўжо знаць, што кончыўся твой час, што твае Альховыя Крыніцы бур'янам зарастуць. Неперспектыўныя яны, няма чаго на іх глядзець. А ты ўсё шчэмішся!» Але не асабістая крыўда кіруе Сцяпанам у яго непрымірымым змаганні з недахопамі. Ён верыць, што ўсё зменіцца, што нядоўга будзе камандаваць Прымачак, што «папрыязджаюць сюды назад з гарадоў людзі, дзе там усім падзецца. Тут жа ў нас такое месца! Возера, лес!» Гэты боль і вера Сцяпана блізкія і зразумелыя нам, таму што няма сілы, якая б адрывала такіх людзей ад зямлі. І пакуль яны ёсць, будзе жыць, квітнець і радзіць зямля.

Герой А. Жука не прымае індывідуалістычную канцэпцыю свету — існаваць толькі дзеля сябе. Ён сапраўдны наш сучаснік і, разумеючы веліч, складанасць і супярэчлівасць эпохі, гатовы аддаць жыццё за шчасце людзей. Характар Дзямідчыка моцны знітаванасцю з народнай асновай, высокімі ідэаламі нашага грамадства.

У кожнай кнізе чытач шукае штосьці цікавае, шукае адказы на свае ўласныя праблемы. І аповесць А. Жука, дзе галоўны герой думае, гаворыць, адчувае гэтак жа аб'ёмна і глыбока, як у жыцці, прымушае і чытача пановаму бачыць акаляючую рэчаіснасць, вучыць заўсёды заставацца чалавекам. Важна, што воблік Дзямідчыка аўтар раскрывае ў шматмерных праяўленнях яго ўнутранай сутнасці, падкрэслівае гатоўнасць гэтага героя да актыўнага дзеяння, у якой бы якасці і стане ён ні знаходзіўся. Асэнсаванне лёсу чалавека ў творах А. Жука наогул ідзе па лініі цеснай узаемасувязі яго з акаляючым светам, шматлікімі супярэчнасцямі нашага хуткаплыннага часу. І не выпадкова пісьменнік у сваёй творчасці звяртаецца галоўным чынам да тэм сучаснасці. Нямала напісана ім апавяданняў, аповесцей пра жыццё сённяшняй вёскі, у якіх, як і ў аповесці «Паляванне на Апошняга Жураўля», раскрываюцца вобразы нашых сучаснікаў, простых сельскіх працаўнікоў, у большасці людзей старэйшага пакалення. Пісьменніку, які, дарэчы сказаць, нарадзіўся і вырас у вёсцы, важна перадаць праз жывыя, паўнакроўныя вобразы тое лепшае, што было, што ёсць у людзях, непарыўна звязаных працай, побытам з прыродай, зямлёй. Іх жыццёвы вопыт, які складае сутнасць гістарычных і паўсядзённых з'яў, павінен быць засвоены маладым пакаленнем, якое пераймае адпрацоўныя традыцыі старэйшых. Справай, адносінамі да акаляючага свету выяўляе аўтар чалавечую годнасць сваіх герояў, раскрываючы іх духоўную прыгажосць, і ў гэтым асноўная каштоўнасць яго твораў.

У аповесці В. Блакіта «Шануй імя сваё» старшыня калгаса Кунцэвіч, як і Сцяпан Дзямідчык у А. Жука, належыць да тых разумных клапатлівых практыкаў, што аднаўлялі разбураную вайной гаспадарку. Каля яго набіраўся вопыту не адзін малады спецыяліст. Задуманы гэты вобраз цікава. Празаік імкнуўся паказаць героя ў асноўным праз раскрыццё яго ўнутранага свету, праз шматлікія разважанні, роздум. І ўсё ж успрымаецца герой як выразнік аўтарскіх ідэй — залішне зацягненыя ўнутраныя маналогі сведчаць, што ідэі гэтыя — вострыя, надзённыя — больш хвалююць аўтара, чым яго героя: «Зямля і ўсё, што расце на ёй, любоў і ласку чуюць, як жывыя. Ёсць любоў і ласка — радзіць і радаваць будзе, застанецца сіроцінаю — удзічэе, быльнягом урасце... Я во часта думаю, — разважае Кунцэвіч, — чаму гэта ў нас пры такой тэхніцы, пры такой навуцы, а з сельскай гаспадаркай не заўсёды ладзіцца ўсё? ... Мужыка ад зямлі адбіваем — во што страшна. Для сяго-таго зямля ўжо не маці-карміцелька, а мачыха, далёкая сваячка... Нас, старых, браце мой, і хвалюе, каб вы не дайшлі да такога сораму, што кароў трэба ездзіць даіць з горада, каб з гэтаю меліярацыяй не дакаціліся да пустыні. Мы па сваёй дурасці шмат напаганілі на зямлі, колькі рачулак, колькі харастава загубілі...»

Адну з прычын такіх супярэчнасцей у сельскай гаспадарцы пісьменнік бачыць у тым, што дапускаюцца да кіраўніцтва ёю такія, як Сурміла, хай сабе і кандыдат навук, але абыякавы да зямлі чалавек. Ён лічыць, што «жалезам трэба вытраўляць любоў да

зямлі, за якую агітуе Кунцэвіч. Іншая любоў зараз патрэбна — дзелавая, рацыянальная, без markdownрознага слюнцяйства і сантыментаў. Што такое зямля? Сродак вытворчасці, як станок, канвеерная лінія — і не болей. Усё астатняе — пустыя забабоны. Трэсці, жалезам прасаваць, вырваць усё, што можна, — во якая любоў да зямлі павінна быць сёння!» У гэтым выказванні ўвесь Сурміла, прагматычны чалавек, для якога вёска «дойная карова, трамплін для пасады ў горадзе». Выяўляючы такія два супрацьлеглыя погляды на праблемы сяла, недвухсэнсоўна акрэсліваючы сваю пазіцыю, пісьменнік асуджае недальнабачныя, спажывецкія адносіны да зямлі. Паказваючы, якое ганебнае паражэнне церпіць Сурміла ў сваіх індывідуалістычных памкненнях, аўтар тым самым падкрэслівае, што перамагаюць лепшыя, сапраўды перадавыя спосабы гаспадарання, заснаваныя на шматвекавым вопыце народа ў разумным спалучэнні з дасягненямі навукі і тэхнікі.

З усіх станоўчых вобразаў, паказаных у сённяшняй прозе, што ўвасабляюць людзей, закліканых ажыццяўляць вялікую перабудову вёскі, кіраваць яе працэсамі, найбольш глыбокім і цікавым з'яўляецца вобраз Мацвея Роўды з рамана В. Казько «Неруш». Гэты твор захапляе не толькі надзённасцю праблематыкі, але і высокім майстэрствам, вынашанасцю тэмы. Нялёгка чытаецца раман, з болем у сэрцы, неабыякавасцю. Такога твора чакалі даўно, бо няма больш вострых праблем, чым праблемы, звязаныя з меліярацыяй Палесся. Пра Палессе пісалі некалі, як вядома, Тургенеў, Купрын, нават у Чэхава герой

апавядання «Палата № 6» Міхаіл Авер'янавіч гаворыць: «А неўраджаі ў нас ад таго, што асушылі Пінскія балоты».

Палессе — месца дзеяння класічных раманаў І. Мележа, многіх твораў Б. Сачанкі, рамана Л. Гаўрылкіна «Зямля дзяцей нашых».

Раман, як адзначае сам В. Казько, «нарадзіўся з паездак па Палессі, з сумеснага жыцця з палешукамі, з іх адносін да жыцця. Яны задалі настрой, сфарміравалі і мае адносіны да таго, што адбываецца». І далей, вызначаючы тэму, мэты рамана, В. Казько падкрэслівае: «Як небяспека вайны, так і небяспека поўнага спусташэння нашага агульнага дома, нашага асяроддзя пражывання з-за неразумных, бесчалавечных да яго адносін — галоўныя тэмы літаратуры... Бо адбудаваць нанава разбураную прыроду немагчыма. І я лічу сваім абавязкам гаварыць аб гэтым, пакуль можна, выратаваць тое, што ў нас засталося... Якія ж мы марнатраўцы! Як неразумна раскідваемся багаццем, якога яшчэ не ацанілі...

А ў свеце ўжо сёння каля мільярда людзей адчуваюць востры недахоп прэснай вады. У нас вады ў рэспубліцы пакуль што быццам хапае. І лясоў хапае. Але гэтыя скарбы падчас знішчаюцца на нашых жа вачах... Што застаецца пасля такога асушэння для чалавечай душы?... Чалавек, яго гарманічнае развіццё, яго душа — вось галоўная мэта...»

Пісьменнік падыходзіць да адлюстравання гэтых важных задач усебакова, грунтоўна, імкнучыся падкрэсліць неадназначнасць такой праблемы, як пераўтварэнне зямлі. Раскрываючы вобраз галоўнага героя Мацвея

Роўды, ды і наогул праз вобразы іншых Роўдаў, Бараздыкаў, Махахеяў, якія ўвасабляюць карэнных жыхароў Палесся, аўтар закранае безліч пытанняў, якія ставіць перад імі жыццё. Мацвей Роўда пачынае змагацца з балотам, каб палепшыць, упрыгожыць побыт землякоў, пазбавіць ад улады балота, даць ім больш добрай, урадлівай зямлі. Ды і асабістыя дачыненні да балота ў Мацвея цяжкія, не можа дараваць ён Чортавай прорве, дзе трагічна загінулі бацька і маці. Фігура маці і сёння нібы здань паўстае перад ім, прымушае, нягледзячы на ўсякія папярэджанні аднавяскоўцаў, дзейнічаць апантана, безаглядна. Роўда ўпэўнены, што пасля, як будуць асушаны балоты, людзі зразумеюць, дзеля якой вялікай мэты ён змагаўся з бясконцымі разводдзямі, багнай, камарэчай, будуць удзячны, што стварыў, даў ім новае жыццё.

Зыходная пазіцыя і пісьменніка і яго героя выразная, пэўна акрэсленая, сапраўды высакародная, бо сёння без меліярацыі не абысціся, нельга яе асуджаць агульна. Меліярацыя — гэта новыя формы гаспадарання, новыя вялікія палі, якія даюць шырокі прастор сучаснай тэхніцы, павышэнне ўрадлівасці, высокія ўраджаі, новыя пасёлкі з лепшымі ўмовамі побыту. Але Роўда не пераўтвараў прыроду, прыслухоўваючыся да парад вучоных, да сялянскага вопыту, а ўступіў у вайну з балотамі, паспешліва асушаў іх, думаючы пра хуткія выгады. Аўтар раскрывае яго дзейнасць спачатку як меліяратара, старшыні буйнога калгаса на асушаных землях. Працуе Роўда не адзін, зразумела, пісьменнік паказвае яго ў асяроддзі — з аднаго боку тых, хто

кіраваў меліярацыяй, з другога — аднавяскоўцаў, дзеля якіх усё рабілася. З гэтага акружэння вылучаюцца дзве фігуры, як дзве процівагі, — непасрэдны начальнік Мацвея — Шахрай і аднавясковец Цімох Махахей, былы франтавік, радавы калгаснік, сумленны працавіты чалавек, не абыякавы да таго, што адбываецца ў жыцці Палесся, вёскі, прыроды. Перад Шахраем, як перад сілай, што зверху накіроўвала яго дзеянні, Мацвей Роўда апынуўся ў ролі простага выканаўцы, якога іншы раз і пачыналі турбаваць, палохаць некаторыя нязладжанасці, але супакойвала тое, што не адзін ён за іх у адказе, над ім шмат людзей, больш кампетэнтных, чым ён, звычайны кіраўнік радавога атрада меліяратараў.

Княжборцы, і асабліва Цімох Махахей, пільна сачылі за дзейнасцю Мацвея, бо яны тут жылі і будуць жыць, і да зямлі, балота, лесу маюць непасрэднае дачыненне, не могуць быць да іх абыякавымі. Махахей наогул як бы супрацьстаіць Мацвею ў яго апантанай барацьбе з балотам, увесь час заклікае азірнуцца, спыніцца, падумаць пра небяспеку гэтай барацьбы. Аднойчы Махахей ужо .ратаваў дуброву, калі пасля вайны старшыня калгаса загадаў яе спляжыць, каб зарабіць грошы на аднаўленне гаспадаркі, і пакуль ён яе ратаваў, моцна парадзела яна, але з таго часу завецца Махахеявай. І цяпер, калі наступаюць меліяратары, ён ідзе як з былымі добрымі сябрамі развітвацца з дубамі, Вясковым возерам, рэчкай, з зямлёй, «якой таксама ўжо няма, а ёсць інакшая зямля перад ім, жыццё на ёй інакшае, незнаёмае». Балела душа Махахея, але была маўклівая, як яго княжбор-

ская зямля, якую палешукі паілі сваім потам і крывёю на працягу многіх стагоддзяў. «Што можа сказаць гэтае роўнае поле, па якім ён, Махахей, зараз ідзе, таму, хто стварыў яго? ...Тут, па яго, Махахея, разуменні, у міг стварэння адбываецца і забойства, бо занадта пагрозлівае і незваротнае гэта стварэнне, у гэтага ж поля адсечана памяць... А плача ўжо ўсё вакол. Адплакаўшы ўжо сваё і слязьмі сваімі ні рэчкі, ні возера не аднавіўшы, пайшлі адсюль бабры, як бежанцы, назаўсёды, пайшлі ад сваіх абмялелых азёр і старыц... ракі... А нядобра зверу, казюрцы, нядобра і чалавеку, будзе нядобра. Бо ўсё жывое—радня чалавеку». Махахей не разумее, як пайсці з гэтай зямлі і нічога пасля сябе не пакінуць. Ён не верыць у гэту бясследнасць, не можа быць, каб Мацвей Роўда, свой, княжборскі, не спасціг небяспекі, што хвалюе Махахея, які нікуды, як тыя бабры ці ракі, не можа сысці з гэтай зямлі, бо на ёй прысутнічае памяць тых, хто тут жыў, іх безабаронныя магілы. Мацвей быў з княжборскага роду, быў іхнім сынам, і аднавяскоўцы не могуць дараваць яму, што знікла зусім балота, не стала вады ў калодзежах, перасыхаюць палі, загінуў лес, уздымаюцца пылавыя буры, не чуваць птушак, няма ракі, Вясковага возера, знікае з твару зямлі іх старая вёска.

Разумее і балюча ўспрымае гэтыя страты Мацвей, толькі цяпер ён убачыў, што натварыў. У самым пачатку рамана ёсць сімвалічная сцэна сустрэчы Мацвея з адзінокім буслам, выгнаным з чарады, якая «ўзнімаецца ў неба і кругамі, кругамі набірае вышыню, ружовым і белым клінам уваходзіць у чырвань

сонца... Адзін толькі бусел застаўся на зямлі. Бусел і Мацвей Роўда на пустой дарозе.

— Ну што ты натварыў? Чаму яны з табою гэтак? Ведаю, брат, ведаю. І са мною тое ж самае... Схібілі мы, брат, абодва. Мо і я вінаваты ў тваёй бядзе. Знішчыў тваё балота. А такое ж добрае было балота... Ты прабач мне, антон. Не ведаю я, што рабіў. А калі б ведаў... усё роўна было б тое ж. Табе трэба балота, жабы, а нам хлеб, бульба. Як жа с табой падзяліць зямлю, каб табе і мне ўсяго хапала на ёй? Не ведаю, ты прабач мне, не ведаю...»

У гэтым уся трагедыя Мацвея Роўды — у яго гарачым жаданні абнавіць зямлю і няведанні таго, як гэта лепш зрабіць, да якіх межаў яе абнаўляць. І ён судзіць сябе, моцна пакутуе, бо спачатку быў перакананы, што дзеля дасягнення галоўнай мэты — даць людзям больш зямлі, больш хлеба, яму ўсё дазволена і «ўсё спішацца, даруецца хлебам», Перад ім стаяў хлеб, і які яшчэ хлеб рос на зямлі, што была адваявана ў дрыгвы, у лясоў, у тых самых балот, з якімі змагаўся і ён, Мацвей Роўда. Але нешта перасцерагальнае сыходзіла з неабсяжнасці гэтага пшанічнага мора, лунала ў яго бясконцасці, мо галасы тых, што жылі калісь тут, на гэтым балоце...»

Так на працягу ўсяго рамана будзе пакутаваць Мацвей ад гэтых супярэчлівых думак, то захапляючыся веліччу шырокіх пшанічных палёў, то скаланаючыся ад нязвыклага выгляду аднастайнага Палесся, калі нідзе ні дрэўца, ні лесу, ні бору, ні балота, усё роўнядзь, поле, стэп, а душа прасіла лесу, «мо б яна і маўчала, не прасіла яго, калі б ведала, што

лясоў тут ніколі не было...» Складаныя, цяжкія думкі, няпростыя дзеянні Мацвея. Асушыўшы балоты, ён марыць пабудаваць замест старой вёскі новы пасёлак, перасяліць туды княжборцаў. І вось праз некаторы час яны моўчкі назіралі за рабочымі, якія зносілі хаты і на паселішчах бялелі толькі печы сярод руін. «І пакаціўся, пасыпаўся стары Княжбор на машынах, трактарах і падводах, рушыў ён, драўляны і самотны, і журботны, але і задаволены аднадасова, у новае жыццё, у новыя каменныя кватэры. Спалохана і нясмела ўваходзіў у гэтыя кватэры з непатрэбнымі ім гаршкамі і чыгункамі, ступамі і сякерамі...» А Мацвей, стаўшы старшынёй калгаса на новых землях, думаў аб тым, як справіцца з гаспадаркай, рыхтаваўся да ўборкі першага ўраджаю. А ўраджай быў такі, што зерне не паспявалі адвозіць ад камбайнаў, яго не было куды ссыпаць. Княжборцы хваляваліся, каб не прапаў хлеб. А хлеб гарэў, і Мацвей не ведаў, як патушыць гэты агонь. У хлебе была яго сіла і праўда, што дапамаглі на нейкі час зноў адчуць сябе княжборцам. «Пад прыкрыццем гэтага хлеба ён, здавалася яму, не быў больш чужым роднай вёсцы, адным летам яму шмат чаго было даравана, калі не ўсё...» Здавалася, як можна наракаць на Мацвея, калі на новым полі, створаным замест возера, ракі, балота, лесу, вырас нябачаны ў гэтых мясцінах ураджай. «Усіх аб'яднаў і памірыў хлеб, які сапраўды ўсяму галава...»

Зямля давала спачатку багаты ўраджай, але час ад часу на агромністым полі «раўла бура, кругамі круцілі смерчы, і па крузе ў гэтых смерчах, бы вялі нейкі карагод, хадзілі

людзі. Хадзілі, натыкаліся на Мацвея, крычалі нешта нячутнае яму і злое, яраснае. І вецер выў і крычаў у вушы галасамі княжборцаў:

— Быў лес...

— Была вада...

— І стала пекла. Пекла, пекла, пекла.

Да вясны залечваў і залізваў пасля той чорнай буры раны Княжбор. Гаіў свае раны і Мацвей, ды так і не загаіў...»

У выніку бяздумнага асушэння парушылася экалагічная раўнавага зямлі. Зрабілася невыносна княжборцу, рыбіне, самому Мацвею. Ён пачаў разбураць тое, што пабудаваў. «Як жа прымірыць усіх, ці магчыма такое? — пакутліва думае Мацвей. — Дзе і як можна знайсці такую раўнавагу і такое міралюбства? Ці будзе калі-небудзь так на зямлі, і калі ніколі не будзе, дык ці варта наогул жыць на гэтым свеце?..

Мацвей судзіў гэтай ноччу сябе не толькі сам, але і машына, якую ён запусціў у Княжборы, судзіла яго... І тут, сёння, стаялі ў шэраг адзін за адным, невядома кім пастроеныя, усе пакаленні Махахеяў, Роўд-Дзям'янаў і Барздык-Чыгуноў. Ён хацеў прыбіцца да іх, схавацца сярод іх, але яны не падпусцілі яго да сябе, каменем паперлі яго прэч, хаця сярод Роўд былі і яго бацькі, і сам ён быў. Ён паспеў убачыць сябе, паспеў убачыць сум і жах, што ахапілі яго і адбіліся на яго дзіцячым твары. Не ратавалі яго і бацькі, пыталіся, дзе іх магіла, а маці загаласіла, што няма ў іх больш сына... Ты ўзяў зямлю ў першароднасці, і квецені і без смецця і паскудства. Чыстымі былі туманы, вольнымі птушкі, пладзіліся жывёлы твае, пладаносілі дрэвы, яшчэ

Княжбор дастаўся табе ў першароднасці і першастваранасці лясоў, рэк і крыніц, верхавых і нізавых балот, але ты кінуўся, улёг перарабляць яго, муляла вока табе першастваранасць, кануў ты неруш, крануў і сябе...»

Так, перамяжоўваючы розныя карціны старога і новага Палесся, раскрываючы ўнутраны пакутлівы стан душы Мацвея, аўтар як бы выходзіць на адкрытую, напружаную размову з чытачом. І ўжо не адчуваеш сябе староннім назіральнікам — так захапляе, хвалюе тое, пра што гаворыць пісьменнік. Вобраз Мацвея неадназначны, непросталінейны, раскрыты шматгранна, глыбока. Аўтар пранікае ў яго душу, паказвае яго пачуцці, перажыванні, якія становяцца блізкімі, тваімі.

У рамане моцна гучыць тэма адказнасці чалавека за справу рук сваіх, асабліваў адказнасці пры ўмяшанні ў прыроду. Зусім паіншаму, чым у некаторых другіх творах, востра, сур'ёзна пастаўлены пытанні неперспектыўных вёсак, адчування людзей, калі іх прымушаюць новыя абставіны жыцця пакідаць родныя мясціны, праблемы духоўнай спадчыны старой вёскі. Праблематыка рамана настолькі багатая, цікавая, актуальная, што гаварыць пра яе можна бясконца. Раман В. Казько па надзённасці праблем, шматграннасці іх асэнсавання, грунтоўнаму раскрыццю вобразаў, асабліва двух асноўных сюжэтных і ідэйных цэнтраў — Мацвея Роўды і Цімоха Махахея,— адносіцца да лепшых твораў савецкай прозы, прысвечаных сённяшняй вёсцы.

З поўнай адказнасцю можна сказаць, што якую б галіну чалавечай дзейнасці мы ні закранулі: прамысловасць, сельскую гаспадар-

ку, будаўніцтва, арганізацыю адпачынку, духоўнае, маральнае выхаванне людзей,— усе яны звязаны з пытаннем аб стане прыроды. Гэтым абумоўліваецца значнасць любой друкаванай працы, дзе ставяцца праблемы аховы прыроды, не гаворачы ўжо пра мастацкі твор, які мае магчымасць глыбока ўздзейнічаць на пачуцці і ўчынкі людзей.

Узаемаадносіны чалавека і прыроды — такая праблема вызначае пафас рамана В. Карамазава «Пушча». Гэта твор глыбока зацікаўленага, улюбёнага ў родную прыроду чалавека. У ім пісьменнік разглядае карэнныя духоўна-маральныя праблемы жыцця сучасніка менавіта праз яго адносіны да прыроднага, расліннага і жывёльнага свету. Абараняючы прыроду, аўтар, па сутнасці, абараняе жыццё самога чалавека. Сваімі матывамі раман В. Карамазава блізкі многім творам рускіх аўтараў, якія заклікаюць любіць і абараняць прыроду, а не змагацца з ёй.

Падзеі рамана «Пушча» адбываюцца ў нашы дні. У цэнтры ўвагі празаіка жыццё Лісанскай пушчы, а ў больш звужаным, канкрэтным плане — Лісанскага лясніцтва. З рамана чытач можа ўзяць шмат агульных звестак аб лесе, аб жыцці дрэў, аб карысці, якую лес прыносіць людзям. Аўтар расказвае пра жывёльны і раслінны свет, лясныя промыслы, працу лесаводаў. Усё гэта ён дае на фоне гісторыі Лісанскай пушчы ад пацёмкінскіх часоў да сучаснасці, што раскрывае не толькі своеасаблівы воблік краю, але і з'яўляецца пэўным эмацыянальна-змястоўным каларытам твора. Пісьменнік гаворыць пра змены, якія «гістарычна адбываліся тут у размя-

шчэнні парод, пра ўплыў тых змен на здароўе і прадукцыйнасць пушчы, яе забалочанасць, здольнасць бароў і гаёў узнаўляцца сваімі сіламі, іх супольнае жыццё са звярамі, птушкамі, чалавекам, пра тое, як чалавек у розныя часы па-рознаму ставіўся да пушчы і як пушча мянялася да чалавека, плаціла яму». Аўтар падкрэслівае важнасць і неабходнасць беражлівых адносін да лесу, адказнасць кожнага чалавека за ахову прыроды. Развіццё гэтай думкі ў шырокім мастацкім асэнсаванні рэчаіснасці тлумачыцца тым, што прырода — гэта нашы клопаты, наша радасць, будучыня нашых дзяцей.

На першы погляд можа падацца, што В. Карамазаў залішне ўвагі надае розным эканамічным, гаспадарчым пытанням, падрабязна апісваючы працу Лісанскага лясніцтва: клопаты аб выкананні плана, праблемы з транспартам, лесапасадачнай тэхнікай, лесаўпарадкаваннем. Але калі пачынаеш учытвацца больш пранікліва, то пераконваешся ў правамернай мастацкай апраўданасці такіх старонак і ўспрымаеш іх як неабходна-жыццёвы змест твора. Адразу адчуваецца добрае веданне аўтарам стану беларускіх лясоў, які раскрываецца праз гісторыю Лісанскай пушчы. І самае галоўнае, што пушча выступае тут не як фон, пейзаж,— яе жыццё паказана ў арганічнай сувязі з жыццём людзей. Менавіта сама пушча, дубровы, бары, асобныя дрэвы (гісторыя Святога дуба, трох ялін на Такавішчы), сем'і ваўкоў, алсняў Барына і Пані існуюць у творы ў якасці галоўных персанажаў. Гэтыя жывыя карціны і вобразы пушчы выкарыстоўваюцца аўтарам не толькі для лі-

рыка-эмацыянальнага ўвасаблення значных спраў чалавека, але і для таго, каб паказаць некаторыя негатыўныя бакі няўмелага, спажывецкага гаспадарання і неабгрунтаваныя спробы «палепшыць» прыроду. Прырода ў такіх выпадках выступае як своеасаблівы мастацкі, шырока разгорнуты і складаны сімвалічны вобраз. Яна становіцца самастойным кампанентам твора. Аўтар далёкі ад суб'ектывізму ў інтэрпрэтацыі прыроды, яго апісанні пушчы рэальныя, канкрэтна-індывідуальныя і паўстаюць у сукупнасці розных сваіх элементаў. У гэтых карцінах адчуваеш пахі, гукі, бачыш неба, колеры, зямлю, расліны, жывёл, птушак. Уся гэта маляўнічая канкрэтнасць выклікае ў чытача адчуванне непасрэднай прысутнасці, з'яўляецца той існасцю, што сімвалізуе еднасць чалавека і прыроды.

Праблема чалавек і прырода ў асэнсаванні В. Карамазава раскрываецца перш за ўсё як праблема сацыяльная і маральная. Аўтар змог абгрунтавана паказаць месца і значэнне прыроды ў жыцці грамадства, яе натхняючае ўздзеянне на чалавека. Ён дае цвярозую, аб'ектыўную ацэнку таму, што адбываецца ў Лісанскай пушчы, гаворыць аб памылках, якія ўжо цяжка выправіць. Яшчэ ў дарэвалюцыйны час, калі пушча знаходзілася ў руках паноў, яна панесла небяспечныя страты: бяздумна высякаліся прыгажуны-дубы, карабельныя сосны, знішчаліся птушкі, дзікі, ласі. У час вайны немцы пілавалі дубы на калоды і масцілі імі дарогі, высякалі лепшыя пароды дрэў. Ды і зараз іншы раз можна назіраць негатыўныя моманты ў лесагаспадарчай практыцы. Вось і паўстае перад героямі твора —

работнікамі лясніцтва — пытанне, як і што рабіць, «каб, карыстаючыся лесам, не збядняць яго, каб пушчы хоць пакрысе вяртаць яе гістарычныя каштоўнасці?»

Усе гэтыя вострыя, злабадзённыя пытанні пераламляюцца праз прызму асабістага, маральнага, яны прапушчаны праз сэрца і роздум людзей, кроўна зацікаўленых у плённых выніках сваёй працы. Сярод вобразаў рамана на першым плане ляснічы Валошка, дзед Гарох, леснікі Макар Курнопа, Міна, Рысеў, малады таксатар Андрэй Старапольны, дырэктар лясніцтва Зімавец. Найбольш каларытнай фігурай выступае дзед Гарох, для якога Лісанская пушча заўсёды была і засталася адзіным домам. Ён любіў паўтараць: «У мяне першае слова — пушча, другое— пушча. Я нічога не ведаю, акрамя пушчы». Дзед Гарох — захавальнік традыцый, увасабленне тыповых рыс беларускага сялянскага характару, у аснове якога вернасць прыродзе, роднаму кутку зямлі. Усхвалявана-тужліва гучыць сцэна, дзе аўтар апавядае аб тым, як дзед абходзіць пакінутыя хаты вёскі Лісань, адзіным жыхаром якой ён застаўся, успамінае іх гісторыю, лёс тых, хто жыў у гэтым зялёным прыгожым месцы. Так непрыкметна вылучае празаік не простыя і не лёгкія сёння праблемы міграцыі, заняпад «неперспектыўных» вёсак.

У пушчы, у клопатах аб ёй увесь сэнс жыцця не толькі дзеда Гароха, але і такіх яе верных абаронцаў, як васьмідзесяцігадовы Кулаш, чулы чалавек і выдатны ляснік Курнопа, у якім былі «сіла і розум, і душа, і абарона ўсяму жывому».

Ляснічы Валошка карыстаецца асаблівай

сімпатыяй і ўвагай аўтара, духоўна блізкі яму. Лад думак, эмоцый Валошкі заўсёды атрымлівае відавочна адбітак аўтарскага «я». У розных абставінах паказвае пісьменнік свайго героя — дома, у сям'і, у творчай працы (Валошка канструяваў новую лесапасадачную машыну), сярод леснікоў і калгаснікаў, сам-насам з пушчай, дзе ён адчувае вялікую адказнасць за кожнае дрэва, за ўсё жывое ў ёй. Валошка «ведаў і любіў пушчу, яе гонкія меднаствольныя бары, глухія ельнікі, мурожныя, поўныя прастору і сонца, дубровы, белую ад чаромхавай квецені Трасцінку, бабровыя плаціны і хаткі на ёй, абваленыя бабрамі берагі Панскага возера, сенажаці пад лесам, травы і кветкі — па грудзі, грыбныя і ягадныя мясціны, белыя і чорныя паляўнічыя сцежкі, балоты — сухія і тонкія, мохавыя і травяныя. У гэтым пушчанскім гомане прайшло ўсё яго жыццё, якое ён памятаў, — і што яшчэ яму трэба было любіць, чым яшчэ даражыць, калі не пушчаю?» Характарызуючы галоўнага героя, аўтар імкнецца ў першую чаргу раскрыць яго духоўны свет. Праз унутраныя маналогі, раскрыццё думак, пачуццяў пісьменнік паказвае разуменне героем жыцця і чалавека ў ім: «На пушчанцаў за жыццё нагледзеўся, душу іх лясную, здаецца, зразумеў. Чалавек — глыбіня, душа пушчы, плоць і дух ад яе вечнасці, і таму не думалася, што ён можа быць у сваёй глыбіні лжывы. Ён — сіла, які б ні здаўся з першага погляду. І пазней, ужо ляснічым, ведучы размовы з пушчанцамі, не раз лавіў сябе на тым, што глядзіць на людзей вачыма, якімі глядзеў на іх у дзяцінстве, — шу-

каў у кожным той галоўны Іванаў корань, на якім зялёны пагон можа адно затрымацца ў росце, але падымецца абавязкова, калі яму на голаў упадзе цёплы сонечны прамень. І амаль заўсёды знаходзіў Іванаў корань у чалавеку. Той корань звычайна ішоў ад самае пушчы. Гэтак — і з Курнопам, і з Агейчыкам, і з дзедам Гарохам, і яшчэ шмат з кім... Узяў і ён усё ж у пушчы свой Іванаў корань. Не ад прадзеда, дык ад людзей, якіх зразумеў душою...» Такія ўнутраныя маналогі галоўнага героя дынамічныя, эмацыянальна-насычаныя. Яны адлюстроўваюць у лірыка-апасродкаваным выглядзе рух часу, імкненне чалавека да гарманічнага ўзаемадзеяння з прыродай, паказваюць духоўную прыгажосць асобы.

Роздум і клопаты аб прыродзе, аб яе будучым сталі непадзельнай часткай жыцця і дзейнасці Валошкі. «Бачыць, як гіне прырода, і толькі ўздыхаць — пустое. Ёй трэба пасабляць, каб яна жыла. А пасабляць — значыць ведаць. Хто яе ведаў найлепш, зрабіў для яе найбольш? Аксакаў, Тургенеў, Прышвін, Марозаў, Сабанееў, Арсеньеў... Іх, выдатных знаўцаў і абаронцаў прыроды, шмат...» Сваіх герояў В. Карамазаў таксама паказвае абаронцамі прыроды. Станоўчыя героі твора пры ўсёй розніцы лёсаў унутрана блізкія. Іх аб'ядноўвае бескарыслівая любоў да прыроды. Усе яны — нашы сучаснікі, самааддана працуюць дзеля ўзнаўлення пушчы. Іх прафесійнае крэда — «пераўтварыць прыроду так, каб не абрабаваць сваіх прапраўнукаў».

Часцей за ўсё аўтар і паказвае герояў сярод прыроды. Адносіны да яе — шмат у чым мера іх чалавечай годнасці, сродак характа-

рыстыкі. Пейзажы пушчы дапамагаюць аўтару не толькі выявіць эмацыянальную настраёвасць таго або іншага героя, але і раскрыць яго погляды, памкненні. Старонкі, прысвечаныя апісанню прыроды, цікавыя яшчэ і таму, што перад намі паўстае беларускі край з яго лясамі, лугамі, імшарамі, азёрамі, рэкамі. Патрыятычная ідэя любві да Радзімы раскрываецца тут як натхняючая гармонія чалавека і свету.

Асноўнае дасягненне аўтара — пераканальнасць характараў галоўных герояў — Валошкі, дзеда Гароха, Андрэя Старапольнага. У духоўнай роднасці гэтых вобразаў увасоблена ідэя пераемнасці маладым пакаленнем лепшых традыцый народнага жыцця, беражлівых, па-сапраўднаму гаспадарлівых адносін чалавека да прыроды. І нездарма раман завяршаецца маляўнічым апісаннем начной пушчы, па якой ідзе Валошка, адчуваючы «свой неспакой, свой даўні боль за ўсё жывое».

У параўнанні са станоўчымі героямі — абаронцамі пушчы вобраз Зімаўца, дырэктара лясніцтва, раскрываецца інакш, у асноўным праз гаспадарчую дзейнасць. Ён — кіраўнік, які імкнецца выконваць дзяржаўны план любой цаной. Мог аддаць загад валіць у пушчы дубы на мясныя калодкі, на паркет, бо за іх ішлі жывыя грошы, выконваўся план. Зімавец, здавалася б, мысліць маштабна, па-дзяржаўнаму: калі бацька скардзіцца яму, што ад хімічнай прапολкі з самалёта загінулі пчолы, то сын лічыць, што гэта страта — кропля ў вобласці, не кажучы ўжо пра рэспубліку, усю краіну (гэтак жа і старшыня калгаса Прымачак у А. Жука адказвае Сцяпану Дзямідчыку:

«падумаеш, снапоў не вывезлі з поля»). Але старыя — ашчадныя, гаспадарлівыя — думаюць па-іншаму: «так па кроплі можна мора вычарпаць». І бяда такіх вось маладых, як Зімавец (Прымачак у Жука або Сурміла ў Блакіта), што іх не турбуюць дробязі. «Адно мора вычарпаем, другое нальём», — адказвае Васіль Сямёнавіч Зімавец бацьку. — Цяпер гэтакая сіла! Чалавек усё можа. Уладыка!» На жаль, людзі з такім бяздушным разуменнем прыроды, сваіх абавязкаў дзейнічаюць як спажыўцы па прынцыпу: «пасля нас хоць патоп», ды яшчэ трапляюць на кіруючыя пасады. І вельмі важна, што беларуская проза выступае супраць такіх з'яў у нашым жыцці.

Як бачым, літаратура даволі актыўна звяртаецца да раскрыцця актуальных пытанняў сучаснасці, жыцця і дзейнасці перадавых людзей вёскі. Але цікавых мастацкіх вобразаў, якія б запомніліся, кранулі сэрца, моцна ўсхвалявалі сваім лёсам, справамі, самааддачай працай і якіх у вялікім мностве адкрыла, назвала наша нарысістыка, у «вясковай» прозе створана не так ужо і багата.

Чамусьці больш ахвотна распрацоўваюць пісьменнікі вобразы людзей старэйшага пакалення. Такое і зразумела, бо яны з'яўляюцца захавальнікамі лепшых духоўных традыцый жыцця вёскі, клапоцяцца пра тое, каб не астыла цяпло зямлі. Гэтыя людзі вынеслі на сваіх плячах цяжар вайны, пасляваеннай адбудовы, а некаторыя і калектывізацыі, і цяпер працягваюць працаваць, нягледзячы на паважаны ўзрост. Часта звяртаючыся да іх маральнага, працоўнага вопыту, аўтары ўзмацняюць выхаваўчае ўздзеянне твора, садзейнічаюць уклю-

чэнню гэтага вопыту ў духоўны свет маладых. Як слушна адзначае А. Адамовіч у кнізе «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры», «чым больш магутнай становіцца рука чалавека, вынаходлівей тэхнічны розум, тым больш «упарта» піша літаратура «пра душу», пра псіхалагічную сувязь з мінулым». Таму, відаць, сёння надзвычай шырока і адлюстроўваюцца ў літаратуры матывы вяртання, развітання, у якіх выяўляецца імкненне празаікаў да высвятлення таго псіхалагічнага стану людзей, звычайна маладых, што спадарожнічае адрыву ад вясковых карэнняў і «прырастання» да горада. Тут ёмістае вызначэнне гэтай з'яве знайшоў Я. Лецка сваёй аповесцю «Дарога ў два канцы», раскрыўшы стан сучаснага маладога чалавека, якому наканавана душой імкнуцца да «малой радзімы», усім сэрцам любіць яе, але жыць у горадзе, бо тут яго праца, сям'я, інтарэсы. Назва твора «Дарога ў два канцы» гучыць гэтак жа афарыстычна, як і «Сена на асфальце», «Усе мы з хат». «Сапраўды, калі ўдумацца, цяпер у кожнага з нас, хто пакінуў бацькоўскую хату, дарога ў два канцы — адзін бяжыць у далечыню, а другі нацэлены на радзіму, туды, дзе ты вучыўся хадзіць, гаварыць, слухаць і бачыць. Адно без другога, бадай, немагчыма!..»

Стаўленне да вёскі былых вяскоўцаў не аднолькавае. З рознымі намерамі едуць дамоў, да маці і бацькі сённяшнія гараджане: адпачыць, знайсці спакой, ачысціцца душой, узяць харчовых прыпасаў, грошай, зрэдку дапамагчы бацькам у іх бясконцых клопатах. У кожнага, як адзначаюць пісьменнікі, вёска выклікае трапяткое, шчымлівае пачуццё, бо ў род-

ныя мясціны яны вяртаюцца быццам да саміх сябе, да гаючай прыроды, без якой цяжка і самотна душы ў хуткаплынным гарадскім жыцці. Гэта вяртанне прымушае шмат аб чым падумаць, падвесці вынікі перажытага: «І хоць назаўсёды ў мінулае адыходзіла вёска, у якой я рос і якую хаваю і буду хаваць у сваёй памяці, і хоць у ёй нараджаецца новае і часам не зразумелае мне жыццё, — разважае адзін з герояў рамана Л. Гаўрылкіна «Матчына хата», — мяне заўсёды будзе цягнуць сюды, бо тут мае карэнні, хаця цяпер і назаўсёды абрэзаныя.

І яшчэ мне падумалася тады: а ці будзе ў маіх дзяцей вось такі лапік зямлі, да якога б яны на ўсё жыццё прыкіпелі сэрцам, звяралі сваё жыццё з жыццём яго людзей?»

Падобныя думкі ахопліваюць і Алеся Пташака, героя аповесці Я. Лецкі, які, вяртаючыся да бацькоўскага дома, пачынаў разумець, што «ганарыцца за свой народ і шанаваць яго годнасць трэба, што без свайго, як дрэва без лісця ці птушка без крылаў, ты нікому не патрэбны і не цікавы...» Вёска дала магчымасць Алесю ўсвядоміць, што ў вялікі свет, «на сустрэчу з людствам чалавек ідзе не сам па сабе, а разам са сваім народам...» Таму і прыязджае ён заўсёды ў родную вёску не госцем, а гаспадаром, якому да ўсяго ёсць справа. Хоць і яго ахопліваюць тут успаміны дзіцячых, юнацкіх гадоў, але зварот назад, бадай, найперш і патрэбен дзеля таго, каб смялей і спарней ісці наперад. Ён заўважае таксама, як і героі іншых твораў, вялікія змены ў жыцці вёскі, але не ўсе змены радуюць душу, садзейнічаюць выхаванню ў маладых

любові і прыхільнасці да зямлі. Чаму даўно не чуваць ля іх вёскі птушыных спеваў, дзе тыя коні, без якіх Алесь не ўяўляў дзіцячых гадоў? «Няўжо гэта іх Пакручанку разам з салаўямі, качкамі, выдрамі і стронгамі падмялі пад сябе жалезныя гусеніцы, а экскаватар, які ішоў услед за бульдозерам, прагавіта і зладжана выцягваў галаву на доўгай шыі, чэрпаў ад цямна да цямна, накідваючы паабапал глыбокага раўка два высокія валы гразі...»

У гэтых балючых, незваротных «палепшэннях» прыроды вінаватым сябе адчувае і Алесь, для якога «Пакручанка назаўсёды засталася незагойнаю ранай — на яе месцы, як вечны дакор яму, слязіцца знямелая і змярцвелая вада...» Мусіць не вельмі настойліва змагаўся Алесь з тымі, хто паспешліва, не думаючы, як зробленае можа адгукнуцца ў будучым, ператвараў прыгажуню-раку ў спрамленую канаву. Але ўсё ж змагаўся, дзейнічаў, не выступаў староннім назіральнікам у адрозненне ад тых, хто ўціхую, унутрана абураецца супраць негатыўных з'яў. Такіх дзеячаў шмат сустракаецца на старонках «вясковай» прозы, насычаных аўтабіяграфічнымі прыкметамі.

Зварот пісьменнікаў да таго роднага, блізкага, першапачатковага, што ўваходзіць у паняцце «бацькаўскі дом», «рукі маці», «родны кут» у самым шырокім сэнсе гэтага слова — адна з характэрных прыкмет сучасных твораў. Гэта выклікана неабходнасцю азірнуцца, агледзецца на новым, высокім перавале, каб захаваць сувязь паміж мінулым і сённяшнім, устаяць перад напорам спажывецкіх псеўдакаштоўнасцей і сцвердзіць каштоўнасці сапраўдныя, духоўныя.

Тэма вяртання пачала моцна гучаць яшчэ ў 60-я гады. Назаўсёды ўвайшлі ў нашу свядомасць цёпла, па-мастацку пераканальна выпісаныя вобразы бабуль, старых сялян з твораў Ф. Абрамава, В. Астаф'ева, В. Бялова, В. Распуціна, цудоўных аповесцей Я. Брыля, з іх мяккім, задушэўным гумарам, вобразы маці ў творах А. Кудраўца, Я. Сіпакова, М. Стральцова, Б. Сачанкі. Сёння пісьменнікаў таксама прываблівають тыя пласты жыцця, што з'яўляюцца прыдатнымі для спасціжэння і ўвасаблення станоўчых, асветленых шматвекавым вопытам народа, ідэалаў, якія маюць рашаючае значэнне ў выхаванні падрастаючага пакалення. Не выпадкова, што захавальнікі лепшых традыцый — дзяды, бацькі — сталі нашымі любімымі літаратурнымі героямі. Гэта старая Анэта і Сцяпан Дзямідчык, дзед Гарох і дзед Акім, Цімох Махахей з твораў А. Жука, В. Карамазава, В. Казько, некаторыя падобныя вобразы ў аповесцях, апавяданнях М. Гіля, В. Гігевіча, М. Клебановіча, У. Рубанава, А. Дударава.

У аповесці «Таццянін чэрвень» М. Гіль у адной сюжэтнай калізіі раскрывае вобразы маці і сына. Ён мае намер высветліць сутыкненне духоўнага і матэрыяльнага, паўсядзённага і вечнага, бескарыслівага і эгаістычнага. Адбываецца зварот да гістарычнага, духоўнага вопыту старэйшага пакалення, вопыту, які ўвасабляецца ў вобразе маці, сумленна, мужна пражыўшай жыццё. У цэнтры ўвагі аўтара чалавек цікавы, змястоўны, але не выключны. Аўтар не схільны ідэалізаваць сваю гераіню, ён паказвае, як склаўся яе лёс. Семнаццацігадовай дзяўчынай ваявала Таццяна ў парты-

занскім атрадзе, там сустрэла сваё першае каханне, якое скончылася трагічна: перад самым вызваленнем загінуў яе Пятро. Праходзіць перад намі ва ўспамінах Таццяны і карціна пасляваеннага працоўнага подзвігу сялянства. Усю сябе аддавала Таццяна аднаўленню роднага калгаса, даводзілася ёй быць брыгадзірам, працаваць да знямогі, да адчаю. Так і прайшлі яе маладыя гады. І зараз, хаця і жыве Таццяна адна — вырас яе адзіны сын і пасля службы ў арміі, ажаніўшыся, застаўся ў горадзе,— але не адчувае яна вастрыні адзіноцтва — з ёй па-ранейшаму праца, аднавяскоўцы, з якімі ўмее яна дзяліць і радасці і засмучэнні. Цяпер яе больш за ўсё хвалююць думкі пра сына: чаму яе Алёшка вырас чалавекам без маральнага стрыжня ў душы, чаму не выхавалася ў ім прыхільнасці да працы, без якой маці не ўяўляла сабе жыццё? І Таццяна перш за ўсё пачынае вінаваціць сябе. Вядома, што дзеці — гэта «наш суд на міру» і калі ў душы іх не аказваецца любові і павагі да блізкіх, калі не адчуваюць яны грамадзянскага і асабістага абавязку, адказнасці перад людзьмі, значыць, нешта не дадала ім маці, вялікая яе віна ў тым, што не змагла выхаваць сапраўднага, духоўна багатага чалавека. Такія думкі пакутліва вяруюць у душы Таццяны, і яна імкнецца перад судом уласнага бескампраміснага сумлення вызначыць каштоўнасць жыцця, высветліць, што ў ім было добрага і дрэннага, вартага памяці і роздуму. Ці не страціла яна на нялёгкім шляху нешта вялікае, найбольш важнае? І гэты суд сумлення чалавека, які змог сказаць праўду пра сябе — адначасна і акт маральнага ачышчэння

перад сабой і людзьмі. У гэтым Таццяна вельмі блізкая гераіням В. Распуціна, В. Астаф'ева, А. Кудраўца. Яна, як і Анэта з аповесці А. Жука «Халодная птушка», падпарадкоўваючыся ўнутранай неабходнасці, робіць «рэвізію» сваіх паводзін, пачынае «перажываць» іх дзень за днём, год за годам, нічога не ўтойваючы перад сабой.

Па меры таго як раскрываецца характар Таццяны, аўтар выяўляе ў ім усё новыя рысы: жаночую гордасць, цвярозую практычнасць, дабрату, сумленнасць, шчырасць, любоў да зямлі і сялянскай працы, жыццястойкасць. Вобраз галоўнай гераіні павернуты больш да сучаснасці, чым да мінулага. Раскрываючы жыццё Таццяны, празаік імкнецца высветліць і вострыя маральна-этычныя праблемы сённяшніх дзён: выхаванне моладзі, чалавечнага ў чалавеку, маральнай устойлівасці. Яго цікавіць, чаму тое добрае, чым валодала маці, не перадалося сыну? Гэтыя надзённыя пытанні, шырока адлюстраваныя аўтарам у аповесці, вельмі важныя. Пісьменніку ўдалося пазбегнуць дыдактыкі, прасталінейнасці, аднназначнага адказу.

Тэма вёскі ў беларускай літаратуры невычарпальная. Любоў да радзімы, да таго кутка зямлі, дзе рос і мужнеў, да шчодрых і добрых людзей, якія назаўсёды ўвайшлі ў сэрца і памяць,— усё гэта, прапушчанае праз душу пісьменніка, зноў і зноў становіцца прадметам мастацкага твора. Паказальна, аднак (і вельмі добра!), што многія маладыя аўтары, звяртаючыся да гэтай тэмы, не захапляюцца ўспамінамі пра ўласнае дзяцінства, сваімі пачуццямі і адчуваннямі з нагоды сустрэчы з

роднай вёскай. Яны проста не аддзяляюць сябе ад людзей, пра якіх пішуць, асоба апавядальніка ў дадзеным выпадку займае сціплае, непрыкметнае месца. Жыццёвы матэрыял у кнігах такіх празаікаў, як М. Клебановіч, А. Дудараў, адабраны прадумана, адухоўлены ўменнем аўтараў паказаць чалавека ў моманты, якія найбольш поўна высвятляюць асноўныя якасці характару, яго станоўчыя і адмоўныя рысы. Толькі дзве сітуацыі з жыцця старшыні калгаса раскрывае перад намі М. Клебановіч у апавяданні «Увосень» — два сходы: той, далёкі, калі «сарамлівы, як дзяўчо», новы старшыня расплакаўся ад бездапаможнасці перад маўклівым недаверам людзей, і сённяшні, на якім ушаноўвалі калгасных ветэранаў і калі самі людзі вырашалі прысвоіць званне заслужанага калгасніка свайму старшыні. За гэтымі сітуацыямі паўстае і гісторыя і жыццёвы шлях чалавека, які пераадолеў неймаверныя цяжкасці, але змог заваяваць душы людзей, чыім стараннем узнялася і красуе сёння вёска. Паказваючы сваіх герояў у працы, у розных узаемаадносінах, грамадскіх сувязях, М. Клебановіч высвятляе іх духоўны свет, раскрывае лепшыя рысы нацыянальнага характару, заснаваныя на высокіх маральных традыцыях народнага жыцця. Персанажы яго апавяданняў у большасці гумарысты па натуры, яны смяюцца са сваіх слабасцей і недахопаў, любяць дасціпны саланаваты жарт.

Гумарыстычныя і трагікамічныя эпізоды ўласцівы таксама многім апавяданням А. Дударава, у якіх адчуваюцца зацікаўленыя, прынцыповыя адносіны аўтара да герояў, звычайна людзей старэйшага пакалення. Аўтар па-

казвае ў кнізе «Святая птушка» часцей за ўсё вясковых дзівакоў, якіх на самой справе і не назавеш дзівакамі — гэта людзі з «неабароненым сэрцам», добрыя, працавітыя. Такім быў Пятрок Харытонавіч, адзін з герояў апавядання «Талент». Ад нараджэння Пятрок мае здольнасці разумець усё па-свойму, з душой, жаласлівым сэрцам. Ён ведаў, што на зямлі ўсяму жывому бывае балюча. Умеў ціха і ласкава размаўляць з жывёлай, птушкамі, людзям, здавалася, не ў вочы глядзеў, а ў сэрца заглядваў. Вось гэты талент чалавечнасці, дабра, справядлівасці, сумленнасці перш за ўсё бачыць і паказвае ў людзях А. Дудараў. Не можа калгасны шафёр Сцяпан Пузырэвіч вытлумачыць сваё вострае жаданне, каб над вёскай кружыліся буслы, «выводзілі птушанят, прылятаді напрадвесні і радасна клекаталі па вечарах, калі за старым, разваленым млынам за вёскай садзіцца на елкі ружовае сонца...» («Святая птушка»). Ён лічыць, што буслы прыносяць не толькі вясну, але і шчасце чалавеку, і таму, выклікаючы здзіўленне вяскоўцаў, ладзіць гняздо на старой ліпе, якая расла побач з домам, каб прывадзіць буслоў. І калі, вярнуўшыся з чарговага рэйсу, Сцяпан убачыў аголеную вёску, знішчаныя па загаду брыгадзіра ліпы і лятаючых у небе бяздомных буслоў, ён плача, схіліўшыся над жоўтым пнём. «Дзівак-чалавек» — за гэтымі іранічнымі словамі аўтара гучыць зусім іншы падтэкст — добра, што не пераводзяцца такія вось дзівакі, якія сэрцам умеюць адчуваць прыгажосць і суладдзе цеснай сувязі чалавека з прыродай.

Багацце, духоўную прыгажосць унутрана-

га свету старога Рыгора Мулькевіча, па вясковай мянушцы Мульцік («Мульцік»), яго характар А. Дудараў раскрывае рэтраспектыўна. Пісьменнік паказвае жыццёвы шлях свайго героя ад маладых гадоў да старасці. Стаўшы пенсіянерам, ён па-ранейшаму не можа ўседзець без працы, ідзе да старшыні з прапановай, ад якой «калгасу будзе карысць «уздоўж і ўпоперак». «Мульцік, як гэта цяпер гавораць, ад званка да званка ў калгасе. Кім толькі можна было ў вёсцы працаваць — усім перапрацаваў: і брыгадзірам, і ўчотчыкам, і конюхам, і старажам, і на зернесушылцы, аднойчы нават заатэхнікам паставілі». І вось цяпер ён просіць, каб узялі яго ў праўленне «метэаролагам»—яго старая рана, атрыманая пад Кенігсбергам, дакладна прадказвае надвор'е: «Мне і грошы не патрэбны, хапае ў мяне... Ты толькі зрабі, каб можна мне было прыходзіць у праўленне і сядзець»,— просіць ён старшыню. Але проста так ён сядзець не хоча, а каб на справе. «Каб ведалі людзі, што я на пасадзе, а не лынды б'ю... Я ж усё сваё жыццё на зямлі тантаўся. Ні адпачынку, ні выхадных. Колькі сябе памятаю, змалку ўсё некуды бег, нешта варочаў, падымаў, насіў... Адпачываў ужо, калі хвароба падкосіць... А цяпер... Ну не магу я як кныр той у хляве ляжаць: есці ды рохкаць... Я ж працаваць прывык, мяне жыццё на такі лад настроіла... У мяне душа!»

Праз гумарыстычныя сітуацыі, апавяданні-ўспаміны старога Мулькевіча праглядваецца лёс не аднаго чалавека, а жыццё многіх, гісторыя калгаса, краіны, сённяшнія праблемы. За імі сур'ёзны роздум аўтара, імкненне

паказаць, што іншы раз некаторыя кіраўнікі з-за вострага дэфіцыту часу часта забываюць пра чалавека, яго душэўныя перажыванні, клопаты. «Заслужыў свой адпачынак — ляжы на печы і глядзі тэлевізар», — гаворыць старшыня калгаса старому Мулькевічу ў адказ на ягоную просьбу. Можна зразумець старшыню: гарачы час, жніво, бясконцыя справы, тут не да перажыванняў і смешных прапаноў пенсіянера. У першую чаргу трэба вырашыць матэрыяльныя, эканамічныя пытанні, да маральных, духоўных запатрабаванняў, па ўсяму відаць, ён адносіцца як да нечага другараднага, неістотнага. Але маральнае, духоўнае — гэта і святыя адносіны да хлеба, зямлі, прыроды, пераемнасць працы і пакаленняў, тыя далёкія гады, калі такія людзі, як Мулькевіч, былі маладымі, калі фарміраваліся асноўныя каштоўнасці савецкага ладу жыцця, якія дапамаглі нам выстаяць у самыя цяжкія для краіны моманты. Маральныя, культурна-эстэтычныя інтарэсы сучасніка, усё тое, што сёння называюць словам «духоўнасць», выраслалі на лепшых традыцыях жыцця народа. Прыгажосць душы, светаразуменне людзей старэйшага пакалення назапашваліся вякамі. І лёс такіх герояў А. Дударава, як Сцяпан Пузырэвіч, Пятрок Харытонавіч, Рыгор Мулькевіч, калгасны каваль Банчук, Грышка Пукач, бабка Ахрэміха, старая Піліпіха, якая і па сённяшні дзень чакае з вайны сына, Пракоп Яцук, што верыць у памяць і душу чалавека, які працай сваёй творыць дабро на зямлі, варты пераймання.

Задумваюцца героі А. Дударава і над адвечнымі пытаннямі чалавечага быцця: дзеля

чаго чалавек жыве, пакутуе, радуецца? Дзеля якой вялікай мэты? Што пасля чалавека застаецца? Нашто людзям войны пры такім кароткім і хуткаплынным жыцці? Памятаць, паважаць традыцыі бацькоў, дзедаў, веру, якую яны ў душы насілі,— галоўная ідэя апавядання «Абразок». У чым шчасце чалавека — у матэрыяльным назапашванні ці ў духоўных каштоўнасцях — гэтыя дзве лініі раскрываюцца праз вобразы-антыподы, у якіх увасабляюцца розныя супрацьлеглыя пачаткі жыцця ў апавяданні «Шчасце». Каваль Банчук, справядлівы, бескарыслівы чалавек, які працаваў па прынцыпу: «Жыццё, як тая зямля, што ёй дасі, тое і возьмеш», і Васіль Сілявец, які лічыў, што шчасце трэба здабываць любымі сродкамі: здраджваць, вырываць рукамі і зубамі, назапашваць грошы, ні з кім не дзелячыся. Але калі Банчук адчувае, што ён патрэбны людзям, то Сілявец абыдзены лёсам, нешчаслівы і адзінокі: ні жонка, ні дзеці, ні аднавяскоўцы не падзялялі яго поглядаў. У такіх, як Сілявец, падкрэслівае пісьменнік, няма каранёў у мінулым, няма перспектывы. Праз гэтыя два погляды на жыццё аўтар выяўляе не толькі галоўныя рысы персанажаў, але і лагічна абгрунтаваныя напрамкі іх паводзін, узаемадзеяння — канфлікт сумлення з душэўнай глухатой, чалавечага разумення жыцця і спажывецкага, індывідуалістычнага.

Паказваючы жыццё беларускай вёскі, яе разнастайныя тыпы, А. Дудараў, не ідэалізуючы вобразы людзей старэйшага пакалення, лічыць, аднак, неабходным вучыцца на яго высокіх традыцыях, якія сцвярджаюць працавітасць, сумленнасць, любоў і прыхільнасць да

зямлі, прыроды. Пісьменнік бачыць і новае, што ўвайшло ў жыццё сяла сёння, у эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, выяўляючы адначасова яго выдаткі. Вопытам лёсу сваіх знешне дзікаватых герояў пісьменнік настойліва сцвярджае, што за павярхоўным пластам кожнай з'явы, кожнай сітуацыі і ўчынку ляжаць нязведаныя глыбіні чалавечай душы, якія трэба разгледзець, зразумець, адлюстраваць. Як і многія аўтары лепшых апавяданняў, аповесцей, раманаў шматнацыянальнай савецкай літаратуры нашых дзён, А. Дудараў імкнецца раскрыць надзённыя праблемы матэрыяльных і маральных суадносін жыцця сучасніка — працаўніка зямлі, што асабліва патрэбна сёння, калі вялікае значэнне надаецца мастацкай літаратуры, як важнейшаму сродку выхаваўчага ўздзеяння на чалавека.

Без маральных, духоўных матываў нельга ўявіць сабе сапраўдны твор, у якім бы жанры ён ні напісаны. Вось і ў новых раманах Л. Гаўрылкіна («Матчына хата»), І. Пташнікава («Алімпіяда») пісьменнікі, адлюстроўваючы гісторыю беларускай вёскі ад ваенных гадоў да сённяшніх дзён, выяўляюць вышыню яе маральных крытэрыяў праз лёс галоўных гераінь сваіх твораў — Марфы Кравец і Алімпіяды Падаляка. Гэта жанчыны, жыццё якіх можна па праву назваць працоўным подзвігам. Яны, як і старая Дар'я («Развітанне з Мацёрай» В. Распуціна), Анэта («Халодная птушка» А. Жука), набліжаючыся да таго моманту, якім чалавек завяршае свой зямны шлях, не могуць сёння прымірыцца з абыякавымі адносінамі некаторых маладых да зямлі, родных мясцін, бацькоўскага дому. Гэ-

та асабліва абвастрае эмацыянальнае ўспрыманне чытачом усіх перыпетый, складанасцей іх лёсу, бо прымушае задумацца і яго над пытаннем: «ці так я жыў, што зрабіў добрага для людзей?» Выклікаючы моцнае пачуццё суперажывання, празаікі прымушаюць нас больш уважліва ўглядацца ў духоўны свет гэтых сумленных і мудрых жанчын, адчуваць усёй істотай, а не толькі розумам дыялектыку чалавечага прагрэсу, задумвацца аб цане чалавечага жыцця.

Але сёння ўжо нельга бясконца, механічна паўтараць адны і тыя ж матывы вяртання, развітання, нельга пісаць творы, пабудаваныя па аднаму і таму ж прынцыпу: старыя бацькі, часцей маці, што адна засталася ў вёсцы, і дзеці (цяпер ужо і ўнукі), якія жывуць у горадзе. Часта аўтары пішуць пра пошукі маладымі героямі спакою, гарманічнага суладдзя душы, якога яны не знаходзяць ні ў горадзе, ні ў вёсцы. Або апісваюць прыезд да бацькоў былога вяскоўца, яго ўспаміны пра дзіцячыя, юнацкія гады, сяброў, блуканні па знаёмых мясцінах. І як галоўнае гучыць пры гэтым нейкае цьмянае, неўсвядомленае шкадаванне, незадаволенасць сваім цяперашнім становішчам—і ўсё гэта выглядае быццам праўдзіва, дакладна, бо засведчана аўтабіяграфічнымі адзнакамі. Але ўзнікае думка, што гэта ўжо было і было на больш высокім мастацкім узроўні. Ад такой другараднасці прытупляецца вострае і яркае святло ўжо адкрытых, апісаных раней вобразаў і матываў. І гэта хваля інерцыі, якая працягваецца сёння ў творчасці многіх маладых празаікаў, нараджэнне стэрэатыпа — прыкмета таго, што тэма гэта ў

такой інтэрпрэтацыі «прабуксоўвае». Абмяжоўвацца толькі распаўсюджанай сітуацыяй супрацьпастаўлення «старыя — маладыя», канстатаваць высокі духоўны напал адных і, наадварот, інфантыльнасць другіх, паказваць разрыў пераемнасці, чэрстваcць таго пакалення, якое ідзе на змену старэйшым,—хоць і трэба, але недастаткова ўжо. Быццам паддаюцца некаторыя аўтары спакушэнню аддзяліць «бацькоў» ад «дзяцей». Але на даны момант ці плённы такі напрамак, ці ёсць патрэба разводзіць у бакі ўдзельнікаў адзінага працэсу, людзей блізкіх, занятых аднымі і тымі ж справамі? Тое, што было надзённым у 60—70-я гады, ужо недастаткова ў 80-я, бо нельга не прымаць пад увагу, што ў хуткім часе з 10 чалавек 7 будуць жыць у гарадах. І сапраўды, вельмі моцныя духоўна-павучальныя вобразы людзей старэйшага пакалення, паказаныя ў «вясковай» прозе, і нельга іх лічыць значнымі толькі для гэтай плыні, бо яны ўвасабляюць філасофска-маральныя, працоўныя традыцыі наогул усяго сялянства. Але ці толькі ў падобных вобразах могуць і павінны канцэнтравацца традыцыі ўжо нашага часу? Ды і нельга адно і тое ж бясконца вар'іраваць, паўтараць, каб станавілася яно штампам, а тым больш, як адзначае Ю. Сураўцаў, «зводзіць маральныя ўрокі адлюстравання вёскі да мудрасці пакаленняў, якія ўвасабляюць сабой вёску ўчарашнюю — значыць, рэзка звужаць поле назірання мастака... І яшчэ: філасофска-маральны вопыт вёскі — ці толькі ў ім адстаяўся народны вопыт, хіба вёска толькі давала гораду, а і не брала ў яго, не вучылася ў людзей з асяроддзя рабочага класа, інтэлігенцыі?..

Так, вясковы калодзеж — сапраўды святы калодзеж, але сёння вёсцы асабліва патрэбны вадаправод, магутныя машыны, і яны ўжо ёсць. І ў магчымасцях літаратуры зрабіць так, каб гэта не адмяняла святога калодзежа, каб, па словах Ф. Абрамава, «зялёная радасць вясковага быцця была дапоўнена ўсімі дабротамі сучаснага горада».

Хутка змяняецца структура вёскі, пашыраюцца і ўскладняюцца яе ўзаемасувязі з горадам, абнаўляецца «тыпаж». Мы павінны, безумоўна, прымаць пад увагу канкрэтнасць кожнай творчай задумы, бо пісьменнік можа і не паказаць вядучых фігур сучаснай сельскагаспадарчай вытворчасці: механізатараў, жывёлаводаў, аграномаў, розных спецыялістаў наогул, але і без іх мы павінны адчуць, што яны ў жыцці ёсць, займаюць вядучае месца. А ў многіх нашых творах, якія паўтараюць тэму вяртання, развітання, «бацькоў — дзяцей», добра яшчэ, калі малады сучаснік, імкнучыся праз прыклад жыцця дзеда або бабулі наблізіцца да духоўнага багацця, назапашанага стагоддзямі, пераўтвараецца з шукальніка ў носьбіта духоўных каштоўнасцей, але часцей галоўнай фігурай аказваецца сам аўтар, яго эмоцыі, прызнанні ў любові да роднага кутка, абяцанні вярнуцца назаўсёды, неўсвядомленая настальгія, і гэта ўжо не кранае, абясцэньваецца, не ўплывае як трэба. Усё гэта словы, эмоцыі, а што далей? Якія вывады, як на справе дапамагчы вёсцы, старым бацькам? Магчыма, так, як вырашае такую праблему В. Карамазаў у апавяданні «Дзяльба кабанчыка», калі сын не вытрымлівае выгляду адзінокай маці, яе хворых, спрацава-

ных рук і пасля цяжкага роздуму назаўсёды застаецца з ёй у вёсцы? Ці як гэта робіць пас-ля няўдалага сямейнага жыцця герой М. Гі-ля з аповесці «Тэлеграма з Кавалевіч», які не знайшоў сябе ў горадзе, дзе не адбылося і яго асабістага шчасця, і вярнуўся ў вёску.

Дарэчы, М. Гіль у аповесці «Вяртанне» ад-ным з першых пачаў распрацоўваць новы аспект жыцця нашага сучасніка — вяртанне ў вёску гарадскога чалавека, былога сельскага жыхара на сталае жыхарства. Праблему ўза-емадзеяння горада і вёскі пісьменнік раскры-вае праз этычныя і духоўныя ўзаемасувязі. Гэта і зразумела. Большасць сённяшніх га-радскіх людзей, асабліва ў Беларусі, нарадзі-лася і вырасла ў вёсцы. Многія з'яўляюцца гараджанамі толькі ў другім ці першым пака-ленні. Вёска для іх па-ранейшаму застаецца родным домам, ды і наогул усе мы яшчэ неда-лёка адышлі ад свайго сялянскага мінулага. Не раз сцвярджалася і ў мастацкай літарату-ры, што «ўсе мы з хат», сцвярджаецца гэта і ў аповесці М. Гіля («Вяртанне»): «А з каго ён складаецца той горад? Хіба не з такіх, як ён, Сцяпан, як тыя Чмырыкі ці Зінка Тэкліна? Ці шмат сустракаў Сцяпан у тым горадзе, хто б мог пахваліцца, што нарадзіўся і вырас тут, на Камароўцы ці Старажоўцы? Мала каго. З кім ні загамоніць, дык то з Рудзеншчыны, то з-пад Койданава, то са Старобіншчыны ці Ві-лейшчыны». Аўтар праецыруе на вобраз га-лоўнага героя складаныя працэсы, звязаныя з пераходам чалавека з аднаго сацыяльнага асяроддзя ў другое. Спачатку гэта былі аб'ек-тыўныя прычыны, якія ў пасляваенны час выклікалі пераход сельскай моладзі ў горад.

Сцяпан нарадзіўся і вырас у вёсцы, любіў працаваць на зямлі і ніколі не думаў пакідаць яе назаўсёды. Але так атрымалася, што падаўся і ён у горад услед за сваімі аднагодкамі, тым больш, што трэба было неяк матэрыяльна падтрымліваць сям'ю, якая засталася без бацькі. Пісьменнік перадае тыповую сітуацыю з жыцця чалавека, станаўленне якога адбывалася ў пасляваенныя гады. Горад паўставаў з руін, усюды патрэбны былі маладыя рабочыя рукі, і часовая праца Сцяпана ў горадзе зацягнулася на доўгія гады. Пачынаў ён на будоўлі, потым перайшоў на завод, вырас у высокакваліфікаванага рабочага, ажаніўся, атрымаў кватэру, непрыкметна выраслі дзеці. І калі памерла жонка, Сцяпан вырашыў вярнуцца ў сваю Альхоўку, якая амаль штоноч снілася яму. За лёсам галоўнага героя праглядваецца характэрная адзнака сучаснасці, якая сёння становіцца распаўсюджанай з'явай. Сцяпан «не прырос душою да горада, хоць ёсць што ўспомніць і добрага і благога». Такі яго стан аўтар вытлумачвае асаблівай настраёвасцю, памяццю сэрца. І вось цяпер, гледзячы на родную Альхоўку, ён «падумаў чамусьці пра тое, што ўсё гэта люба яго воку, песціць, улагоджвае ягоную душу і што такой прыгажосці не бачыў усё ж нідзе і нідзе не адчуваў такога замілавання і шчымлівага ўтрапення». Сцяпану не хапала гэтага прастору палёў і лугоў, адчування заспакоенасці ад вясковай цішыні. Хоць і любіў завод, прафесію токара, «пах чыгуну і сталі», аднак лічыў, што свой абавязак тут ён выканаў. «Без нас тады не маглі абысціся, а зараз абыдуцца».

І ў пацверджанне гэтага аўтар запрашае

чытача «падумаць і аб тым, што ён, Сцяпан, вярнуўся, каб часцей бачыць гэтае роднае і блізкае з маленства пярэста-пагоркавае бязмежжа і ціха парадавацца вось такой, як зараз, светла-самотнай, ажно да трымцення ў душы, хвіліне шчаслівага адчування, што кожная лагчына, кожны пагорак, кожная сцежка, атуленая лазняком,—твае ад самага пачатку, ад першага, яшчэ мо і не надта ўцямнага позірку на гэты цяперака блізкі і дарагі яму свет. Ці гэта так мала?».

Вось гэта ўдалая па завершанасці і псіхалагічна-пераканальная сустрэча Сцяпана з наваколлем роднай вёскі ў час яго вяртання і служыць абгрунтаваннем прычыны,—чаму чалавек вярнуўся да пачаткаў сваіх, да таго карэннага, устойлівага, без чаго не мог існаваць у горадзе.

Сёння многія пісьменнікі ў сваіх творах канстатуюць як звычайную з'яву вяртанне людзей у вёску на пастаянную працу і жыхарства. Вось і героямі рамана Л. Гаўрылкіна «Матчына хата» выказваецца ўпэўненасць, што людзі, паспрабаваўшыя гарадскога жыцця, пачнуць вяртацца ў вёску. «Я так думаю, — гаворыць малады брыгадзір Яўген Носік, адзін з герояў рамана, — што ў гарадах людзі патаўкуцца, патаўкуцца, ды зноў пачнуць па вёсках разбягацца». Але не ўсё так проста, як гэта здаецца на першы погляд.

В. Гігевіч у аповесці «Дом, да якога вяртаемся» шырэй разглядае такія моманты ў жыцці сваіх герояў. Калі адзін з іх, Анатоль Кошаль, адарваны ад роднай глебы, не здолеў прыжыцца тут зноў, то другі, Вадзім, стаў-

шы настаўнікам, зрабіўшы вялікі круг па жыцці, нанава адкрывае для сябе ісціны — маці, бацька, зямля, хлеб, памяць — і вяртаецца жыць у вёску. Але не ўсіх, аказваецца, прымае яна. Гэта цікавая сітуацыя разглядаецца ў аповесці А. Жука «Белым снегам». Гарадскі чалавек, таленавіты архітэктар у адрозненне ад сваёй жонкі, якая нарадзілася ў вёсцы і не змагла прывыкнуць да горада, наадварот, не змог знайсці прымянення сваім ведам у вёсцы. Выходзіць, не ўсё так проста — пераехаў і жыві. Існуе мноства прычын, псіхалагічных момантаў, што абумоўліваюць «прыжываемасць» людзей да пэўнага асяроддзя, магчымасць іх поўнай адданасці справе, якой прысвяціў жыццё. Правільна адзначае В. Іпатава ў артыкуле «Сцяпан вярнуўся ў вёску», што зараз «беларуская літаратура хаця і на подступах яшчэ да таго глыбіннага асэнсавання адыходзячай «сялянскай Атлантыды» (А. Адамовіч), але ўжо намацвае і знаходзіць новае, самабытнае, таму што каму ж, як не нашай літаратуры, так моцна звязанай каранямі і душой з вёскай, гэтыя праблемы рашаць».

Тыя, хто піша пра сённяшнюю вёску, павінны ісці далей у сваіх прагнозах па асваенню новых пластоў рэчаіснасці. Самая балючая зараз праблема неперспектыўных вёсак, якая яшчэ больш узмацніла міграцыю вясковага насельніцтва. Усе адчуваюць паспешлівасць, непрадуманасць гэтага ярлыка, наклеенага на зусім нармальныя, жыццяздольныя вёскі, асабліва цяпер, калі пасля майскага і лістападаўскага Пленумаў ЦК КПСС (1982) прынята рашэнне аб добраўпарадкаванні ад-

даленых вёсак, паляпшэнні выкарыстання іх зямельных і лясных угоддзяў. Вядома, трэба адбудоўваць цэнтральныя сядзібы, пастутова перасяляць малыя вёскі, аднак зразумела і тое, што нельга адразу ўсе 24 тысячы беларускіх вёсак ссяліць у тры з палавінай тысячы калгасных пасёлкаў гарадскога тыпу. Не за адзін год усё гэта адбудзецца — так званым неперспектыўным вёскам яшчэ шмат часу жыць, працаваць, даваць хлеб.

Як пісьменнікі асэнсоўваюць гэту з'яву? Сёння яна больш балюча кранае, чым у 60-я гады, — прыгадаем, які цёплы, радасна-тужлівы свет зыходзіў ад аповесці Я. Сіпакова «Усе мы з хат» і які — ад яго апавядання «Вясёлыя Скакухі». Гэта назва вёскі, якая памірае, у ёй засталася толькі адна старая бабуля. Вёска стаіць сярод зялёнай прыгажосці, добрых выгод і яе трэба адрадзіць да жыцця, а не дапамагаць паміраць.

Даследуе псіхалагічны стан людзей старэйшага і маладзейшага пакаленняў у сувязі з такой з'явай і Г. Далідовіч у аповесці «На новы парог». Але адчуваецца, што аўтар адасоблены ад болю, перажыванняў людзей Бабчынага Скону, ён быццам асэнсоўвае адыход гэтай вёскі з вышыні свайго гарадскога ўладкаванага «далёка» як староннi назіральнік. Няма тут таго сапраўднага драматычнага напалу, які мы бачым у рамане «Неруш» В. Казько, у сцэне, як старая Ненене кідаецца пад бульдозер, абараняючы сваю хату, калі зносілі Княжбор з твару зямлі.

В. Казько асэнсоўвае праблему расставання з былым сялянскім светам, з роднымі магіламі, дарагім кутком зямлі на глыбінным

філасофскім узроўні, і гэта нават пасля «Развітання з Мацёрай» В. Распуціна ўспрымаецца па-новаму свежа і эмацыянальна, бо канстатуецца не як падзейна-побытавы факт, а як непазбежны рух наперад усяго грамадства, што тоіць у сабе заўсёды драматычныя супярэчнасці і канфлікты. Правільную і своечасовую думку сцвярджае ў сувязі з гэтым А. Казловіч у нарысах «Красны востраў», «Цывілізацыя называецца Дуброўка» аб захаванні памяці, гісторыі адыходзячых вёсак, людзях, якія жылі тут, стваралі калгасы, абаранялі зямлю ад ворага, адбудоўвалі гаспадаркі ў цяжкія пасляваенныя гады. Тут узнікае праблема пераемнасці лепшых традыцый старой вёскі, яе маральных устояў, што ўвасабляюць у сабе тыя духоўныя каштоўнасці жыцця вёскі, якія не павінны адыходзіць ніколі: сумленнасць, добразычлівасць, клапатлівыя, прадбачлівыя адносіны да прыроды, зямлі, працавітасць, шчырасць. Некаторыя маладыя, унутрана малавыхаваныя, не ўсе засвойваюць гэтыя якасці. У старых жа душэўная прыгажосць грунтуецца на адвечна існаваўшых у народзе высокіх маральных прынцыпах. Што нясуць такія людзі ў горад, калі працэсы міграцыі мы лічым незваротнымі? Мала канстатаваць, набіраць колькасць фактаў аб міграцыі, неперспектыўных вёсках, вяртанні або развітанні, трэба за гэтым бачыць, раскрываць псіхалагічныя, сацыяльныя матывы. Што садзейнічае неадольнаму жаданню маладых жыць у горадзе цяпер, калі адпадае матэрыяльны фактар? Прэстыжнасць, інерцыя думкі бацькоў, якія выпраўляюць дзяцей, лічачы, што толькі ў горадзе можна стаць чалавекам?

Многія творы, напісаныя ў апошні час, адлюстроўваюць ужо зусім адваротны настрой бацькоў, якія ў душы цяжка перажываюць, адчуваючы сваю віну за тое, што адарвалі маладых ад зямлі, што не адбываецца пераемнасці, парушаецца спадчыннасць, застаюцца сіратлівымі, нікому не патрэбнымі хаты, сядзібы,— усіх вабіць горад, у якога ў сувязі з гэтым узнікае мноства сваіх складаных праблем.

Сёння пачынаюць з'яўляцца творы, дзе пісьменнікі з большай увагай прыглядаюцца да сваіх герояў — былых вяскоўцаў, даследуюць іх душэўны стан не ў моманты вяртання, сустрэчы з роднай вёскай, а ў паўсядзённым віры гарадскога жыцця, імкнучыся высветліць, на што яны схільны, як далей вызначыцца іх лёс. Тут галоўным становіцца пытанне: як захоўвае такі чалавек сваю асобу ў горадзе, ці не страчвае ён чалавечае, душэўнае? І ўжо не істотна, вясковы ён ці гарадскі, важна, каб ён у любых умовах, сітуацыях заставаўся чалавекам. Гэта ідэя сцвярджаецца ў рамане В. Гігевіча «Доказ ад процілеглага». Твору ўласціва моцная скандэнсаванасць думкі, бо няпроста, абмежаваўшы дзеянне адным днём, вызначыць тое, чым і як жывуць людзі сучаснага горада. У ім, як і ў папярэдніх аповесцях, апавяданнях В. Гігевіча, няма галоўнага героя, вакол якога звычайна канцэнтруецца дзеянне. Герояў некалькі і праз іх аўтар раскрывае пытанні блізкія, зразумелыя і хвалюючыя кожнага з нас.

Калі Раман Барысавіч Алмазаў, Эма Міхайлаўна, яе сяброўка Мальвіна, Макрыцкі, Алег — патомныя гараджане, то Разорчык, Віталя, Лена — прадстаўнікі трох пакаленняў

людзей, якія ў розныя гады прыйшлі з вёскі ў горад. Андрэй Іванавіч Разорчык — начальнік лабараторыі электрасхемнага аналізу (дарэчы, амаль усе яны працуюць у гэтай лабараторыі) прыжываўся да горада ў цяжкія пасляваенныя гады, і не ад працы сялянскай ён збег, таму што ў горадзе нялёгка даводзілася яму, спадзеючыся толькі на самога сябе, вучыцца ў інстытуце, працаваць па начах. Яго ў горад прывялі прага ведаў, імкненне авалодаць тым лепшым, новым, што дае людзям гарадская культура, цікавая, творчая работа. Сумленнасць, працавітасць, сялянская грунтоўнасць і ўпартасць, неабыякавасць да ўсяго, што адбываецца вакол, пакутлівыя, супярэчлівыя думкі пра сэнс жыцця, пошукі ісціны, пастаянныя сумненні, імкненне знайсці адказы на шматлікія пытанні дня сённяшняга, неспакой за становішча ў вёсцы, куды няма ўжо як вярнуцца, бо карэнні яго цяпер тут у горадзе—вось праўда жыцця і характару Разорчыка. Поўная супрацьлегласць яму — сыты, усім задаволены спажывец і прыстасаванец Алмазаў, жыццёвае крэда якога — не хваляваіца, на ўсё глядзець абыякава, бяздумна, як бяздумна чалавек дыхае паветрам.

Прадстаўнікі маладзейшага пакалення зусім па-іншаму паводзяць і адчуваюць сябе ў горадзе. Калі па ўсяму відаць, што Лена, з яе пасіўнасцю, неўладкаванасцю і разгубленасцю, няўменнем разабрацца ў хуткаплынным жыцці вялікага горада, дзе не змагла ажыццявіцца яе блакітная мара аб дзявочым шчасці, павінна будзе вярнуцца з дзіцем да бацькоў у вёску, то ўчэпісты Віталя ўмее кіраваць сваім лёсам. Ён хутчэй за ўсё стане з цягам часу

другім Раманам Барысавічам Алмазавым. Віталя якраз той прамежкавы чалавек, які прыйшоў у горад з мэтай узяць усё для асабістага жыцця, нічога не аддаючы ўзамен. Ён хоча хутчэй забыць, адмовіцца, вытравіць з сябе ўсё вясковае, таму што шмат гадоў патрацілася на тое, каб «прырасці да гэтага горада, каб назусім забыцца на тую вёску сярод лесу, з гэтымі вечнымі бабскімі сваркамі і забабонамі, з тымі каровамі, свіннямі, вадою ў распуціцу. Ён жа некалі рашуча адрокся ад усяго гэтага і цяпер ніхто не можа папракнуць яго ў тым, што ён — дзярэўня... Мо таму ён і стараўся схаваць тую дзярэўню, ён свята верыў, што ўсё лепшае — тут, а не там, адкуль збег. І таму ён зараз любога заткне за пояс як ведамі, так і паводзінамі, ён зараз паводзіць сябе так, каб утрымацца на паверхні гэтага, а не таго жыцця. Ён не добры і не дрэнны, ён нават аб гэтым і не задумваецца, назусім адкінуўшы законы дзеравенскай маралі, новых ён так і не прыняў, аб гэтых новых законах ён нават і не задумваўся...»

Віталя падпарадкоўваецца сваім законам, плыве па бурнай гарадской плыні — будуе кааператыў, прадаўшы вясковую хату, марыць выгадна ажаніцца, а «мо і не варта жаніцца — мо гэта аджыло, і яму патрэбна побач жанчына, якая б не замінала ягонай свабодзе?» У спрэчках, якія ўзнікаюць у лабараторыі, Віталя заўсёды салідарны з Алмазавым, імкнецца дапячы Разорчыку, даказваючы яго неразуменне сучаснай моладзі, у якой зусім іншыя каштоўнасці жыцця, сварыцца, калі загадчык уключае яго ў спіс тых, хто павінен ехаць на працу ў вёску вясной ці восен-

ню. Любіць пасля работы пайсці да дзяўчат, у кіно на «баевічок» ці дэтэктыўчык, музычную камедыю, баіцца адзіноты, бо ўзнікаюць іншы раз успаміны пра далёкае вясковае дзяцінства, вясковых людзей, якіх саромеўся цяпер, адчуваючы няёмкасць за сваё блізкае і роднае, пакутліва адмяжоўваючыся ад яго. Але і гэта нарэшце адпадае назусім, назаўсёды, і становіцца яму лёгка і проста глядзець на жыццё, — «паменей сантыментаў у наш век, пачнеш іх разводзіць — зусім галаву страціш».

Раскрываючы гэтыя розныя лёсы і характары, розныя жыццёвыя пазіцыі, пісьменнік даследуе душу сучаснага гараджаніна. Псіхалагічныя сутыкненні персанажаў — аснова, праз якую аўтар выяўляе іх сутнасць, болі, трывогі, радасці сённяшняга быцця. Калі Разорчык — увасабленне інтэнсіўных духоўных пошукаў, то Віталя, свядома абарваўшы свае карані, не здольны на высакародныя ўчынкі. У ім, як і ў Алмазаве, аўтар асуджае прыстасавальніцкія, спажывецкія адносіны да жыцця. Празаік добра прыкмеціў нараджэнне небяспечнага сацыяльнага тыпу паводзін, які ўсё больш пачынае распаўсюджвацца, і таму раман «Доказ ад процілеглага» — твор своечасовы, хаця пісьменнік, які прымусіў чытача разам з героямі моцна задумацца над самымі злабадзённымі пытаннямі сучаснасці, павінен быў усё ж больш выразна акрэсліць сваю пазіцыю, вызначыць прыклад жыццёвых паводзін, якім павінны кіравацца людзі ў сённяшніх складаных абставінах.

Роздумам пра чалавека, пра яго месца на нашай неспакойнай планеце прасякнуты лепшыя творы сучаснай савецкай літаратуры.

Жыццё вясковых людзей адлюстравана ў іх як жывыя кавалкі рэчаіснасці, што дае дакладнае ўяўленне пра наш хуткаплынны час і яго не менш зменлівыя і няпростыя праблемы. Задача асэнсавання характэрных momантаў у сучасным вясковым побыце спалучаецца з неабходным фактарам, які вызначае ідэйную і эмацыянальную сілу твора,— праблемай станоўчага героя, барацьбіта і стваральніка. Сёння яна становіцца асабліва важнай, бо з ёй звязаны многія аспекты мастацкай творчасці кожнага пісьменніка — паглыбленне псіхалагізму, аналітычнай скіраванасці, праўдзівага і глыбокага раскрыцця канфліктаў, і самае галоўнае — сцвярджэнне праз вобраз сацыяльна-актыўнай, духоўна багатай асобы ўсяго дадатнага, гуманнага, што нясе чалавецтву савецкі лад **жыцця.**

Праблемы духоўнасці, маральных устояў, раскрытыя праз цікавыя і змястоўныя мастацкія вобразы, заўсёды былі і будуць надзённымі ў літаратуры, якія б тэмы яна ні закранала. І ўсё ж наша беларуская проза недастаткова яшчэ выяўляе і паказвае дзейсных герояў, працаўнікоў зямлі. Мала адлюстроўваюць празаікі прываблівасць вясковага жыцця ў самых шырокіх яго аспектах, зусім няма добрых мастацкіх твораў пра вясковую інтэлігенцыю, мала ўвагі звяртаецца на сацыяльныя, эканамічныя моманты, іх маральнае абгрунтаванне, а вядома, што мараль, духоўнасць не існуюць абстрактна, па-за сацыяльнымі адносінамі.

У пастанове ЦК КПСС «Аб творчых сувязях літаратурна-мастацкіх часопісаў з практыкай камуністычнага будаўніцтва» пісьмен-

нікі заклікалі «засяродзіцца на мастацкім засваенні рэальнасцей, звязаных са стварэннем новых умоў вытворчасці і быту ў вёсцы», бо «літаратура можа многае зрабіць для выхавання ў моладзі любові да зямлі, да прыроды, да сельскай працы».

Немагчыма змагацца сёння за вяртанне людзей да зямлі, аднаўляць, пераўтвараць, ахоўваць яе, не аднаўляючы душу чалавека, не змагаючыся за яго лепшымі творамі мастацтва.

ЛИДИЯ СЕМЕНОВНА САВИК

**ЧТОБ НЕ ОСТЫЛО**
**ТЕПЛО ЗЕМЛИ**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар *Я. І. Бойка*
Мастак *М. А. Жахавец*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Л. А. Карнеева*
Карэктар *М. А. Вячорка*

ІБ № 2356

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.
Здадзена ў набор 26.07.84. Падпісана ў друк 16.10.84. АТ 17409. Фармат 70×90[1]/32. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,92. Ум. фарб.-адб. 3,14. Ул.-выд. арк. 2,9. Тыраж 1950 экз. Зак. № 848. Цана 10 к.
Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.